# НАША НІВА

*Беларуская газэта* — *№9 1992*


**КАЛЁКВІЮМ:** «... было адно адраджэньне, другое... надышло шостае... Так можна адраджацца бясконца». (Францішак Эн. — Юрась З. у гутарцы «Супроць Адраджэньня».)

**ЛІТАРАТУРА-3:** прэзэнтацыя часопіса, які напярэдадні Новай Культурнай Сытуацыі так і ня выйшаў у сьвет: вершы Ігара Бабкова «Solus Rex» і практыкаваньні С.Д. «Дзяржава-забойца», — у гэтым нумары *НН*.

**А ТАКСАМА:** Х.Л.Борхэс, Л.Стаф, В.Гавэл, Т.Венцлава ды іншыя аўтары.

**ГЭРБЭРТ ГАРТЛЬ:** «Беларусь для Эўропы — гэта камуністы, ракеты, Чарнобыль. Самыя вялікія ў Эўропе балоты... Шмат нямецкіх магіл...» (Крыху зьбянтэжаны венскі госьць *НН*).

# Nastalhija pa Miensku




**Расеец малюе Менск...**
**Ён не імкнецца зусім дакладна накрэсьліць будынкі, галоўнае — раскідаць іх на паперы, каб у агульных рысах даць уяўленьне пра пляніроўку аднаго з буйнейшых гарадоў "ізноў набытых" зямель.**
**Адбылося тое набыцьцё ў 1793 г., паводле другога падзелу Рэчы Паспалітай. Тады ж, у 1793 г., ствараецца першы расейскі плян места — "губернского города Минска".**
**Недзе ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. малюецца й плян, фрагмэнт якога мы бачым тут.**
**Старанна выведзены надпіс "Ратуша". З такой жа акуратнасьцю расейскія службоўцы падрыхтуюць у 1851 г. на подпіс імпэратару Мікалаю I указ аб зносе ратушы, якая, паводле згадак сучасьнікаў, "...сваім існаваньнем нагадвала пра звычаі мінулага часу, пра магдэбурскае права".**
**Але на торг, прызначаны дзеля выдачы падраду на разборку будынка, ніхто не зьявіўся. Прыйшлося зьвяртацца да войска й выдаткоўваць грошы "на пакупку снарадаў дзеля разборкі ратушовага будынка".**
**Сэнтымэнтальнасьць менчукоў захавала жыцьцё ратушы пасьля ўказу толькі на 6 (шэсьць) гадоў, да 1857 г.**
**Няхай бы тады, на зломе XVIII — XIX стст. расейскі чыноўнік так старанна не выводзіў гэты надпіс — "Ратуша". І не маляваў пад надпісам гармату — знак выкарыстаньня будынка вайскоўцамі. Ён нібы прадбачыў далейшы лёс таго, што маляваў. А калі не прадбачыў, дык нейкая патаемная сіла кіравала ягоным пёркам.**
**Гэткі самы злавесны быў надпіс яшчэ пад адным асуджаным будынкам — вуніяцкаю царквою Сьвятога Духа, якая на мапе вышэй ад ратушы. І бачым мы касьцёл дамініканаў (самы верх фрагмэнту пляну), а з правага боку ад ратушы — будынак, які пазьней ужо намі будзе названы будынкам першай беларускай опэры — у 1852 г. менавіта ў ім будзе пастаўленая опэра «Ідылія» на лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча.**
**Тут дакладнасьць у вымалёўцы пляну — як знак сьмерці, як антрапалягічныя вымярэньні перад гільятынай — увойдзе шыя ў паглыбленьне ці ня ўвойдзе, і каб лязо саскочыла лягчэй, і каб шпарчэй выцякала кроў...**
**Але расеец маляваў горад, а намаляваў выспу. З мапы стаўся пажоўклы клянова ліст.**
**Нашыя позіркі скіраваліся на гэтую выспачку ў цэнтры мэгаполісу. Сёньня мы можам прыкласьці выспу пляну да мапы гораду й атрымаецца, што контуры фрагмэнту амаль дакладна акрэсьлілі тую частку Менску, якая засталася для нас сакральнай Сапраўды выспа...**
**Гэты фрагмэнт пляну Менску зусім нядаўна знайшоў і перадаў у рэдакцыю сталы чытач *НН* мянчук Кірыл Калінін. Знайшоў на падстрэшшы кляштару базылянак, таксама пазначанага на мапе. Цяпер на гэты будынак нарэшце скончылі класьці новую чырвоную дахоўку, цалкам аднавіўшы падчас рэстаўрацыі канструкцыі даху. Файна. Але такіх знаходак там больш ужо ня будзе.**

Алег Дзярновіч



# КАХАНЫ ГОРАД

У 1980 годзе на старонках амэрыканскага Беларуса Станіслаў Станкевіч згадваў, што некалі Аўген Калубовіч казаў яму, што даў бы Нобэля «Каханаму гораду» С.Юстапчыка. На Беларусі пра гэты твор у тыя часы, бадай, і ня чулі...

«Каханы горад» — першы ў нашай літаратуры значны празаічны твор, прысьвечаны мінулай вайне. Вяртаючы яго з забыцьця, мы аднаўляем пачатак той тэмы, якая ў наступныя дзесяцігодзьдзі стала для беларускай літаратуры галоўнай. Усе наступныя распрацоўкі гэтае тэмы: сытуацыйныя, псыхалягічныя, сьветапоглядныя, — так ці йнакш «запраектаваныя» ўжо тут, у гэтым творы, нэўтральным адносна якойкольвек ідэалёгіі.

«Каханы горад» — гэта празаічны *праект* вядомага эміграцыйнага літаратурнага крытыка Антона Адамовіча (С.Юстапчыка). Як празаік А.Адамовіч ня здолеў, а як крытык, магчыма, і не схацеў *хаваць* дэталёва распрацаваную сюжэтную схему ў спарадычным расповедзе, у стыхіі слова, у вобразах. Аўтар ня столькі ствараў «Каханы горад», колькі *ўзнаўляў* яго з крытычных матывацыяў і ацэнак таго твору, які *мог сабе ўявіць*. Мэтадычны выклад, даўгія сказы зь бясконцымі ўдакладненьнямі, заўвагамі ды алюзіямі, рацыянальна распрацаваная схема, зусім ня вобразная ды аднастайная мова, выхалашчаны, нічым не аздоблены тэкст і — магутная фабула, безумоўны набытак беларускага літаратуразнаўства. Магчыма, некалі нехта возьмецца *разьвязаць* гэтую сытуацыйную ды псыхалягічную *завязку*, рэалізаваць Адамовічаў праект, хоць у літаратуры такое быццам бы й не прынята. Прынята хіба ў кіно...

Нягледзячы на зусім нязвыклыя трактоўкі падзеяў, «Каханы горад» цалкам упісваецца ў беларускую ваенную прозу, не руйнуючы яе пазьней напрацаваных традыцыяў ды канонаў. Прычынай гэтаму — досыць нечаканая для 1943-га году бесстароннасьць аўтара.

У *НН* твор перадрукоўваецца з выданьня часопіса *Сакавік* (Нямеччына, 1948). У публікацыі зробленыя невялікія нязначныя скарачэньні.

# Ігар Бабкоў

ЛІТАРАТУРА-3

Анонс гэтага выданьня быў надрукаваны ў *НН* № 1.
Прапаноўвалася ўсім ахвотным дасылаць замовы.
Дык амаль ніхто не даслаў.
Атрымалася своеасаблівая "пастаноўка мэтафары" нацыянальнае культуры.
Попыт адмовіў прапанову.
Плёнкі з арыгінал-макетам *Літаратуры-3* назаўсёды згінулі ў магілёўскай абласной друкарні.
Сьветлая памяць!
Нешта з тэкстаў рэгенэруецца сёньня на старонках *НН*, а нешта...
Зрэшты, не загіне нічога.
Нават сам праект можа стаць вартым набыткам нацыянальнае культуры.
Як міт. У доўгім шэрагу мітаў...

* * *

Я мроіў незагойна-сіні горад...
І цела нібы лёдка, празрыстае, і камячок асьлеплы вытуквае засьцюжаныя гімны
Прывабныя жаночыя абрысы празь ціхае паветра выступаюць
Па вуліцы галоўнай разгульваюць сэксоты — куды ж бязь іх — у капялюхах шэрых
А мы тулімся ў вечтлыя завулкі, на цьмяныя гарышчы, у бяссоньне, —
далей, мой сябар кажа, далей, у неба Блакітны рытуал, там, у надзем'і,
кране губамі асьцярожна вочы і мы, сьляпцы, прачнемся...
О, прачнемся!

# SOLUS REX

POESIES

SOLUS REX

I
люстэрка адбілася ў люстэрках; тыражаваны сьвет
выйшаў за межы:
мізэрная эпоха.

асьлеплы Арфэй
кранае рукамі сьцены
жалезныя гімны
час пяе пад вакном

НАВОШТА ТУТ ЧАЛАВЕЧНАСЬЦЬ?

сьпяшайся

яшчэ бачныя сьляды
адышоўшых, яшчэ чутныя крокі
яшчэ ня позна, на досьвітку адыходзіць цягнік
назад, у ноч

люстэркі адбіліся ў люстэрках; тыражаваны сьвет
выйшаў за межы

II
вочы заплюшчаны пад небам халодным, маўклівым
рукі ў ціш апусьці, слухай
енк галодны сабакаў за сьценамі сэрца
сп'янелага цеплынёю, у якім
так доўга ты жыў, небарака,
дзе тваё неба?

сабакі бягуць за табою па мосьце
да літасьці прагныя

звыкайся
трымаць сьвету цяжар
звыкайся
быць мерцьвяком
звыкайся
сьляпымі вачніцамі зсўрыць

восеньскі дождж — тваё каралеўства

III
халодны, бясконцы
дождж пустаты і адчаю

хто ты?

кароль і жабрак, былы ўладальнік
прасторы і часу, нябёснае мілаты
праязных рэчаў, самім
богам ахілёны, цяпер
кароль на выгнаньні

вогнішчы мёртвай лістоты —
сэрца тваё —
сьвецяць зіхоткім сьвятлом

IV
жабрак!

сабакі бягуць за табою па мосьце
тыя, што былі людзьмі, гадаванцамі лёсу
да літасьці прагныя
гайні ў пякучых рызманах

ня маеш нічога

урочаны час: бачыш прысутнасьць сваю
ў сьвеце
толькі прысутнасьць

V
так, мусіць застаецца
памерлым сьпеў
калі ня чуюць жывыя
ціха сьпяваць уначы, каб паверыць нарэшце
што ты жывеш, як жылі калісьці яны

узяць з сабою гэты сьпеў
адно гэты сьпеў: дзе ты, Арфэй

сьпяшайся

люстэркі адбіліся ў люстэрках; тыражаваны сьвет
выйшаў за межы:
МІЗЭРНАЯ ЭПОХА




* * *

Чорныя вочы агню
Бясконцыя, нібы сон
За сьценамі, уначы

Калі памірае час
Музыка ў душы
Толькі пульсуе скронь

Плачуць сьцены ў вагні
Волі сьляпы квіток
Працягні, працягні далонь!

ТАМ, ДЗЕ ШАЛЕЕ НОЧ
ТАМ, ДЗЕ КАНАЕ ЧАС
СЬВЕТЛЫ, СЬВЕТЛЫ АГОНЬ

# ПАМІЖ

## Каханы горад

"землякоў". Але ўвесь іхны шлях да гэтага зьвязу быў даволі своеасаблівым і цікавым.

Ад самае першае, уваднэй клясе йаднае школы вучыліся Віктар і Валік. У пятай далучыўся да іх і тадышні гадунец дзіцячага дому, кагадзешні гэрой вуліцы — бяспрытульнік Юрка Галушка. Усе тры ў вучэньні аднолькава йшлі ў першым радзе. Кожны меў, кажучы тымі камісаравымі словамі, свае "недахопы й дахопы", але нек яны ўзаемна зраўнаважваліся, і выходзіла так, што ўсе тры йшлі роўна, і ўсе тры — наперадзе.

Наймень здольны быў, бясспрэчна, Віктар Лабуніч, але браў ён выседжваньнем, напорнасьцяй, а што да настаўніцкіх ацэнаў — і падлізьніцтвам ды даношчыцтвам, сваім яму ўжо змалку. І ў школе яго за гэта не любілі, дражнілі "сьмердзюхом", бо ў Віктара, апрача ўсяго, страшэнна і ўжо на вялікай воддалі тхнула ад ног, якія вечна ў яго неміласэрна прэлі. Таму на парце ён заўсёды сядзеў адзін. Заўсёды потныя, непрыемна сьцюдзёныя й да таго ж нек незгінальныя ў даланёх, як дошчачкі, былі ў Віктара й рукі, і пасьля Юрка бачыў ува ўсім гэтым таямніцу цеснага кантакту сябра з камісарам "Макрыцам": "Бо таксама паўмакрыцы й цэлы сьмярдзюх", — казаў ён.

Самому Юрку, пры ягоных вялікіх здольнасьцях, пракідкосьці й дасьціпносьці, не ставала якраз сталасьці таго выседжаваньня, і таму ён часта, што называецца, "пападаўся". І ў школе гэта быў ужо рызыкант, як пасьля ў паветры, — рыса, зрэшты, узгадаваная яшчэ беспрытульніцкай мінуўшчынай. І гэтае рызыканцтва давалася-ткі ў знакі некаторым настаўнікам, уплываючы на Юркаву рэпутацыю ў іх і перашкаджаючы яму выбіцца на сама-першае месца. Зрэшты, да гэтага ён і не імкнуўся, як Віктар.

Валік Сьнягурскі меў і здольнасьці ня менш, як у Юркі, і ўседлівасьць, ды, насуперак яму, быў зусім "ціхім цацам", як казаў той. Але якраз апошняе, даходзячы да скрайнае сарамяжнасьці, нясьмеласьці, не давала, як трэба, выявіцца Валікавым ведам. Заўсёды ж ведаў ён і паўней і глыбей за ўсіх, навет за тых двух напэўна, але пры адказах раптоўна чырванеў, бянтэжыўся, часам навет блытаўся, і гэта "зьбівала" й яму адзнакі. Наагул, усім сваім вонкавым і нутраным складам Валік нагадваў барджджэй дзяўчыну, як хлапца. Ён і сябраваў найбольш із дзяўчатамі. За гэта хлапцы дражнілі яго "наша Валя" й "Сьнягурачка", а часам і "авечка" — агульнай мянушкай для ўсіх дзяўчатаў клясы, склад якіх, запраўды, падабраўся быў нек наўзьдзіў шэра, не адзначаючыся нічым выдатным зь ніякага боку.

Але ў сёмай клясе прыйшла да іх новенькая, як неўзабаве выявілася, зусім не "авечка". Праўда, з выгляду й яна выдалася адразу вельмі сьціплай, асабліва сваймі даўгімі косамі — гэтым "паненскім архаізмам", як здавалася ўсім — і хлапцом, і стрыжаным пад хлапцоў дзяўчатам. Ды ўжо першымі тыднямі выявілася, што ў ейнай асобе прыйшоў моцны канкурэнт тром "перадавіком". Яна проста задзіўляла і настаўнікаў і вучняў заўсёднай грунтоўнасьцяй і глыбінёй сваіх ведаў, сталасьцяй і спакоем пры адказах. Пры ўсёй сваёй сьціпласьці яна зусім не была "ціхуткаю" — умела ўзяць удзел і ў вагульных забавах і, навет, у хлапецкіх штуках, і пасьмяяцца, і пажартаваць. І пры ўсім тым ад яе, асабліва ад погляду ейных шэрых качэй, як бы бруілася нейкая нябачная, незьясьнёная, але спакаральная сіла. Навет хлапцы толькі першы тыдзень спрабавалі торгаць яе за косы й борзда мусілі адмовіцца ад такой спакусы. Нек само сабой зладжылася, што ўсе пачалі заўсёды і ўва ўсім слухацца Веры Рынейскае, і пад канец году яна ўжо была за старасту клясы, застаўшыся нязьменна на гэтай пасадзе аж да канца школы. Гэтак заваяваўшы ўсіхныя сэрцы, яна сталася ўлюбёнкаю і хлапцоў і дзяўчатаў, а калі ў восьмай клясе пад вясну пачала бушаваць кроў у моладзі і таго і таго роду, у цэнтры гэтага бушаваньня стала зноў Вера.

Дзяўчаты першыя выявілі, што ўсе хлапцы без вынятку закахаўшыся ў гэтай Верачцы. Насьпявалі ўжо звадкі й

# ВІЛЬНЯ

# ПАРЫЖ: МАРГІНАЛІІ



парыж: маргіналіі

О ВЕТАХА ПЯЮЧАЕ ЛЯЗО
Ў СЬВЯТОЙ ЦІШЫ АДРЫНУТАГА СЭРЦА
СЬВЯТОЧНА, ВЕТЛА ЗАТАНУЎ ПАРЫЖ
ПРАЗРЫСТЫ І ПА-ВОСЕНЬСКУ ХАЛОДНЫ

шурпатай крэйдай акруці вакол
наіўную і ціхую ратонду
той крохкі сьвет, дзе бэз каля ўваходу
нам ветла кажа: Closerie des Lilas
дзе валасы твае нібы апошні
прытулак, а жабрацкія далоні
пустыя, чыстыя, нам значаць больш чым мова
пакутліва-зьнявечанага часу
Zeitgeist, сьмяемся мы, саткаў парыж
са сноў і ўсіх няспраўджаных жаданьняў

пакрочым у прыціхлыя завулкі
у зданяў перакінемся і вечар
нас не заўважыць, невадам раскіне
агні таемныя і спыніць мову
пакрочым невымоўнасьцю, нямотай
на плошчу St.-Michel, там, у кавярні

заплоцім за віно і за вячэру
паслухаем катрынку, што сьпявае
пра вечнае каханьне і самоту
пакінутыя на зацятым бруку

паслухаем пра гэты ціхі горад
парыж, што распускаецца ўначы
зь нямоглага маўчаньня — ў насалоду
ў напяты дотык вуснаў, пошап смагі
а над усім — ахоўны знак вады
ты ў ім прынадна, ветла панавала
ўладальніца, сяброўка і каханка
і я кранаў аголеныя грудзі
губамі і агеньчык адмысловы
палаў пасьля такога пацалунку

а ноч упарта, вабна высьпявала
запальвала начныя эдэльвэйсы
ты плакала і келіх падымала
зь нязбыўным заўтра, я шукаў ратунак
агеньчык, той агеньчык адмысловы
сьвяціў нам уначы й павольна таяў...
шаленец, вочы, мроіва, катрынка
о, божухна, і гэта ўсё парыж
пакуль ёсьць час, пазначце белай фарбай
сваё маўчаньне: гэта ўсё парыж

ў маленечкім пакойчыку лунаі
зьнявечаныя плюшавыя людзі
прыязныя, халодныя, жывыя
заходзіўся празь сьценку тэлевізар
ў вялікія раскінутыя коўдры
здавалася агорнута паўсьвету
самотны промень сапсаванай лямпы
шукаў сябе і торгаўся ў задусе:
ТРАГІЧНАЙ БУДЗЕ ВАШАЯ ГУЛЬНЯ
ён ўслухаўся, была то безнадзейнасьць...

А БОЖУХНА. ТУТ АШАЛЕЎ ГАРСОН
НАЛІЎ У КУБКІ МРОЙНУЮ АТРУТУ
ЦЯПЕР ДА СКОНУ МУСІМ ПАЎТАРАЦЬ
НЯПЭЎНУЮ САЛОДКУЮ ЗАМОВУ:
Ў САМОТНЫМ СЭРЦЫ ПАТАНУЎ ПАРЫЖ
ПРАЗРЫСТЫ І ПА-ВОСЕНЬСКУ ХАЛОДНЫ

DE LA

### КАВЯРНЯ

Прачынаюся сярод цёмнага трываньня сьляпой нацыі
Нібыта выходжу з начной ракі часоў Нэрона
Пустая кавярня

Самотны імпэратар не затушыў сьвятло
Рухі запаволеныя
Словы
Хаваюць нямоту

Самотны бармэн не затушыў сьвятло
Пятля на шыі
Непатрэбная як неба

Дзе ты нэрон
Дзе ты нацыя
дзе ты вера

Дзе вы лябірынты імпэрыі так утульна
Сяброўку абдымаць ды згадваць чужыя імёны
Ноч лашчыць нібы каценя піць абу-сімбэл
Прачынацца дрэвам зоркай

Быць нікім

POESIES

### ПАМІЖ

паміж тым чаго ня будзе ніколі
і аўтобусам
нібы постаці сьвятых у аэфах
уціснутыя ў фатэлі сядзім

паміж намі — пераход
шафёр паліць танныя цыгарэты
у празрыстай панчосе твая нага
і позірк
як птушка ў клетцы

са зьдзіўленьнем
знаходжу цябе сярод сноў
але не знаходжу
тут
сярод словаў

* * *

Багі ўзыходзяць
Зь цёмнай, густой ракі часу
Ноччу бяззорнай, таемнай
І толькі ветах
Шапоча прад сконам сьвятыя гімны

На халоднай зямлі
Сьпяць людзі спакойна, сьняць яны
Нехта ня сьпіць, вогнішча паліць
Вочы свае ахвярує ў вагонь неспатольны
Вочы, а потым сэрца, а потым душу

Сьляпы, у апёках і брудзе
Ён адчувае:
Хтосьці выходзіць з тао-ракі патаемнай
Зь цёмнай, глыбокай ракі
Сьвяты, дасканалы, нябачны




### ВІЛЬНЯ

Сьнег за празрыстым шклом. Японскі пэйзаж.
Вечар. Зімовы сон сярод талай вады.
Сьнег за халодным шклом. Спаміж восеньскіх краж
Сэрца — часовы прытулак — такое бяды

Сэрца — халодны прытулак — восеньскі госьць
Прыйдзе зімовым гасьцінцам змарожаных вен
Прыйме — ад тога, што згублена — тое, што ёсьць
Ў Вільні — далёкай халоднай красою — jugen.

"канфлікты" сярод хлапцоў, пачыналі крывіцца й дзяўчаты. Але Вера зноў умела паставіць сябе так, што ўсё гэта ня выбілася наўзьверх і не прывяло да ніякіх "грамадзкіх забурэньняў" у клясе. З усімі роўная, яна нікога не падпушчала бліжэй, але разам із гэтым кажнаму ўпаасобку як бы давала нейкую надзею й тым самым трымала каля сябе ўсіх чыста. Яна навет ахвяроўвалася часам пасядзець якую гадзінку на "пошаснай" парце із "сьмярдзюхом" Віктарам Лабунічам, і той у глыбіні свае самазакаханае й самапэўнае душы мо найбольш з усіх займеў надзею стацца адзіным Верыным абраньнікам. Але такія ж надзеі паціху таілі і Юрка, і Валік, зь якім Вера, як і рэшта дзяўчатаў, добра тайкавала, а таксама ўсе іншыя хлапцы клясы.

Калі ўжо былі ў дзявятай клясе, нек на пачатку зімы, Юрка аднойчы прыйшоў на заняткі, наўсуперак свайму звычаю, страшэнна панурым і маўклівым. Адмаўчаўшыся гэтак "ваўком" колькі гадзінаў, пад канец дня ён усё ж ня вытрываў, і ў клясе адразу разьнеслася вестка, што Юрка бачыў учора ў кіно Веру зь нейкім маладым прыгожым вайсковым у форме авіяшколы, і Вера была да яго дужа-дужа прыхільнаю, куды больш, як да каго-небудзь із "сваіх" хлапцоў.

Пасьля заняткаў, як разыходзіліся дадому, Веру "выклікалі на тлумачэньні". Яна спакойна, як і заўсёды, сказала, што гэта быў ейны зродны брат, які прыязджаў да іх на пару дзён у гасьціну.

— Зродны браток ці родны сяброк? — ня вытрываў Юрка, каб ня ўставіць "шпількі", хоць тут жа адчуўшы, што выйшла яна затупой і задурной, навет густа пачырванеў.

— Калі хочаш, дык толькі з такім, як ён, і можна было б сябраваць пазапраўднаму, — спакойна зноў адказала Вера, прыціскаючы толькі на апошнім слове.

— І выйсьці замуж? — не ўтаймоўваўся Юрка, чуючы, што зусім ужо "ляпае дурніну".

— Але, і выйсьці замуж. Калі апошняя "падзея" здарыцца неяк у маім жыцьці, дык маім абраньнікам будзе напэўна толькі такі мужны, бясстрашны "капітан паветра" — закончыла Вера, неяк ці то летуценна, ці то насьмешліва.

На гэтым усе гаворкі пра "падзею" ў кіно спыніліся й не аднаўляліся, бо, зрэшты, больш "нічога такога" за Верай ніхто ня здолеў спасьцерагчы, як ні пільна сачылі цяпер усе, асабліва на першым часе. Але пакрысе сярод хлапцоў клясы пачала раптам выяўляцца надзвычайная цікавасьць да лётнае справы. Ажывілася праца школьнага авіягуртка, які датуль існаваў бадай толькі на паперы, а калі ўвесну быў абвешчаны авіянабор у школу — дзевятаклясьнікі, усе як адзін, падавалі туды заявы.

Што Віктар і Юрка пройдуць камісію — у гэтым для нікога не было найменшага дзіва, але што трэйцім між іх будзе зноў-ткі Валік — сталася для ўсіх поўнай неспадзеўкаю. Хлапцы сьмяяліся й дражніліся, што лепш бы падацца яму ў школу мэдычных сёстраў. І дзяўчаты таксама шкадавалі беднага ды наперад рыхтаваліся спачуваць і суцяшаць яго пры забясьпечанай няўдачы. Але Валік, хоць нязьменна чырванеў на ўсё гэта, ды станоўка, проста "непасвойму", як казалі, дамагаўся свайго й дамогся, "адшыўшы" цэлы рад прэтэндэнтаў, якія фізычна выглядалі куды мацнейшымі за яго й былі зусім пэўныя, што ўжо хто-хто, а Валік тут ім ніякі не канкурэнт.

Неўзабаве й наладзілі праводзіны будучых "капітанаў паветра". Адгулялі іх у Верынай гаспадзе, на што ня толькі згадзілася, але навет сама запрапанавала Верына маці. Вера была, як заўсёды, роўна вытрыманай і спакойнай, але ўсё ж крышку можна было спасьцерагчы, што ёй ня можа не імпанаваць гэты вычын сёных "рыцараў", бо дзяўчына напэўна добра разумела, што гэта тыя калішнія словы, сказаныя ёю зайздросьнікам, так вызначальна ўплылі на выбар імі свае жыцьцёвае кар'еры.

Праводжаныя найлепшымі пажаданьнямі й патаёмнай зайздрасьцяй ці аднага зь незадачлівых канкурэнтаў-аднаклясьнікаў, адбылі трох у Маскву, дзе неўзабаве, у чырвені таго самага году, засьпеў іх выбух вайны зь Немцамі. Курс авіяшколы быў прысьпешаны як мага і,

Практыкаваньні

# ДЗЯРЖАВА-ЗАБОЙЦА

С.Д.

Ці можаце Вы, шаноўны чытач, ударыць чалавека? Даць кулаком у зубы, пырнуць нажом, застрэліць, павесіць, атруціць, расьпілаваць нажоўкаю цела, спаліць труп на малым агні, адкусіць вуха... Не, ня можаце. Самі па сабе Вы проста н898здатныя зрабіць бліжняму якую-кольвечы незваротную прыкрасьць. Навват выпадкова. А калі Вы такую прыкрасьць і зрабілі, я бяруся сьцьвярджаць, што ў Вас быў саўдзельнік! Дакладней — саўдзельніца.

Заўсёды, у кожным злачынстве, па самых, здавалася б, прыватных матывах, саўдзельнічае дзяржава. Дзяржава-забойца. Тая самая дзяржава, якая потым карае злачынцаў — замятае свой драпежніцкі след. Тая дзяржава, якая заўсёды сама стварае ўмовы й сытуацыю злачынства й сама ж піша законы, паводле якіх за гэтыя злачынствы карае. Дзяржава-забойца.

Спрошчана тут усё выглядае так. Забойца-вымагальнік — чалавек, які не забясьпечаны зьмястоўным заняткам і добрым заробкам. Забойца-гвалтаўнік — чалавек нявыхаваны й не забясьпечаны ўмовамі, у якіх ён мог бы задавальняцца бяз шкоды астатнім. Забойца-вар'ят — не разгледжаны й не ізаляваны... У кожным выпадку чалавека не забясьпечыла, ня выхавала, не задаволіла, не разгледзела, не ізалявала, — ня выканала свае абавязкі, — дзяржава. Яна абмежавала ўнутраную ды вонкавую свабоду чалавека й тым самым прымусіла яго шукаць вызваленьня, шукаць большае свабоды за кошт іншых, за кошт іхняга жыцьця й дабрабыту, шляхам злачынства. Яна спрычынілася й яна першая зацікаўленая ў тым, каб пазбавіцца ад свайго саўдзельніка — сьведкі яе бязьдзейнасьці, нячуласьці й глупства. Дзяржава — самы беспакараны з усіх злачынцаў.

Вось Вы чытаеце дэтэктывы. У аднаго аўтара з раману ў раман пераходзіць адзін той самы сьледчы, у другога — адзін той самы злачынца. Але за хітрадумнымі сытуацыямі ва ўсіх дэтэктыўных творах заўсёды нябачны й неразгаданы застаецца галоўны саўдзельнік усялякага гвалту. Гэта дзяржава-забойца.

## Залатая фікса

У адной маёй знаёмай прапаў муж. Вярнуўшыся дадому, знаёмая знайшла там цыдулку, у якой за мужа прасілі пяць тысячаў грошай. Жылі яны без бацькоў і безь дзяцей, у сваёй аднапакаёвай кватэры, і таму знаёмая адразу затэлефанавала мне. «Што рабіць? — спыталася яна. — Гэта рэкет!»

Муж знаёмай ужо год нідзе не працаваў, а сама яна хадзіла дзіцём. З запасаў у іх заставалася нейкая сотня. Я, самы блізкі, выходзіла, чалавек, таксама дапамагчы ня мог. «Ня ведаю, — адказаў я ў слухаўку. — А калі сканчаецца тэрмін выкупу?». «Сёньня». «Тады тэлефануй у міліцыю».

Пасьля таго мінуў нейкі час. Аднойчы я згадаў нашую тэлефонную размову ды надумаўся спытацца ў знаёмай, чым скончылася тая гісторыя. Невядомы жаночы голас адказаў мне па тэлефоне, што маёй знаёмай ня ведае й што «такая тут ніколі не жыла».

Мінуў яшчэ час. Неяк між іншым я зноў набраў нумар знаёмай і зноў пачуў той самы чужы голас.

Што здарылася? Спачатку я падумаў, што бандыты не дачакаліся выкупу, забілі мужа, а пасьля й жонку. Але потым я згадаў сваю ж параду знаёмай: «Тэлефануй у міліцыю».

Яна затэлефанавала. Прыйшоў інспэктар, разабраўся ў сытуацыі, задаў некалькі пытаньняў: «Ці ёсьць такія грошы? Ці ёсьць сваякі, сябры й г.д.» Пасьля інспэктар запрасіў знаёмую ў свой жыгуль, вывез за горад, забіў і закапаў. Ведаеце, колькі нераскрытых злачынстваў? Проста бяда.

Пасьля ён засяліў у вызваленую такім чынам аднапакаёўку сваю стрыечную сястру, якая прыехала ў Менск з правінцыі. Перааформіць усе паперы міліцэйскаму інспэктару прасьцей, чым каму іншаму.

Я нават думаў быў пасачыць за інспэктарамі каля аддзелу міліцыі й за мужчынамі каля дому маёй знаёмай, але ўсё было ясна й так. Лепей пазбавіцца ад адзінае сьведкі злачынства рэкеціраў, чым шукаць забойцаў, рызыкаваць, а ўрэшце, як гэта часта бывае, павесіць на сваю шыю яшчэ адну нераскрытую справу...

Так робіць дзяржава-забойца.

У гэтым я канчаткова пераканаўся, калі яшчэ празь нейкі час каля вёскі Пятрышкі (чыгуначная станцыя Радашкавічы) адкапаў у лесе рэшткі жаночага трупа й па пярэдняй фіксе пазнаў сваю знаёмую.

Вы спытаецеся, як я знайшоў мейсца? Я ўсё ж схадзіў да інспэктаравае сястры на госьці ды пагаварыў зь ёю. Яна аказалася ня надта разумнаю дзеўкай з тых самых Пятрышкаў. Далей мне заставалася толькі ўявіць сябе інспэктарам на «Жыгулях» з трупам у багажніку. Мусіць, у падобных сытуацыях усе разважаюць аднолькава стандартна.

Дарэчы, тут жа ў яміне я знайшоў яшчэ адзін, мужчынскі труп. Відаць, інспэктаравай сястры была вельмі патрэбная кватэра ў Менску.

## Расстрэл у лесе

Да пэнсіянэра Берталетава прыйшоў журналіст.

«Скажыце, пяцьдзесят гадоў таму назад Вы не расстрэльвалі людзей?». «Не», — адказаў Берталетаў. «А ці ведалі, хто расстрэльваў?» «Магчыма, — расхваляваўся стары, — але... Іншым разам, праз тыдзень». «Добра», — сказаў журналіст.

Назаўтра Берталетава ня стала.

Аналізуючы гэтую сытуацыю, я перабіраў матывы й прычыны магчымага злачынства, то загінаў, то разгінаў пальцы.

Берталетаў любіў Сталіна, армію й сацыялізм, а чытаў Салжаніцына ў папулярным часопісе. Раз. Даўнымдаўна ён па накіраваньні прыехаў у Менск з Кубані, а толькі цяпер адчуў, што тут нейкая іншая краіна, і ён — амаль што эмігрант. Два. У Берталетава разьвівалася нетрыманьне, а ён хадзіў на мітынгі, сходы й да газэтнага шапіка. Тры. «Інфаркт» — так запісалі ў пасьведчаньні пра сьмерць.

Берталетаў быў маім суседам, і цяпер я глядзеў па пахавальную працэсію з вакна свае кватэры ды працягваў перабіраць магчымыя прычыны сьмерці. Я ўжо быў упэўнены, што гэта ненатуральная сьмерць.

Берталетаў любіў Сталіна, армію й сацыялізм. Мінус адзін. Прапанова вярнуцца куды-небудзь на Кубань здалася б яму абсурдам. Мінус два. Ён ніколі ня жаліўся на сэрца. Мінус тры. Інфаркт косіць чалавека, зацкаванага грамадзтвам, альбо таго, які зацкаваў сябе сам. Але тут няма безвыходнасьці. Берталетаў жа з сваімі любовямі й балячкамі мог пераўжываць якраз безвыходнасьць.

«Самагубства», — вырашыў я. Ён занадта стары, каб ягоныя сваякі ды знаёмцы маглі падумаць, што ён прыняў атруту. Таму ўсе й вырашылі, што тут — інфаркт.

Мне захацелася напісаць пра самагубства. Самагубства — зьява ненатуральная. Яшчэ больш ненатуральная, чым, скажам, есьці ўласных дзяцей. Заўсёды нехта падштурхоўвае чалавека да намыленае вяроўкі, да нажа, да атруты. Гэты нехта — дзяржава-забойца. Ці не яна падсунула Берталетаву Салжаніцына ў масавым выданьні? Раз. Ці не яна ўбіла яму ў галаву, што паўсюль, куды ні паедзеш, — Кубань? Два. Ці не яна занядбала ягонае нетрыманьне? Тры. Дзяржава стварыла вакол Берталетава сытуацыю безвыходнасьці.

І калі мне кажуць пра кашчавую руку, што цягнецца да асуджанага самім сабою на сьмерць чалавека, я ведаю, чыя гэта рука. У сытуацыі «самагубства» саўдзельнік дзяржавы-забойцы — сама ахвяра забойства.

# Каханы горад

**у чацьвер, за нешта ды зачэпіцца. Вось і сяньня з гэтай хустачкай — камісар жа бачыў, пры выпадку не забудзецца прыплюсаваць да іншых штукаў. Тады — тады некалі будзе перамога, і ён — Віктар — што значыць: "пераможац"...**

**Праўда, адно крыху пякло Віктара часам. За колькі дзён перад вайной яго выклікалі былі тэлеграмай дадому — цяжка зьлегла маці. Там заляліла вайна, і такі нечаканы маланкавасьцяй сваёй гітлераўскі наступ... Уцякаючы з гораду ад бомбаў, апынуўся ўсё ж на нямецкім баку. І там, на сяле, спаткаўся тады зь Верай, таксама "ўцякачкай". Першым рухам было — застацца цяпер пры ёй — балазе якраз адзін... А Вера станоўка наважыла заставацца пад Немцамі. І прызналася нават раптам, што тады, як прыйшла вучыцца ў іхнюю школу — яны з маткаю прыехалі ў гэты горад, бо бацьку — расстралялі... Дык хіба ўцякаць ёй далей, з тымі забойцамі бацькі? Ды як Віктар сказаў, што й ён застанецца мо тут — запярэчыла катэгарычна: "Не, табе трэба туды, як барждэжэй туды, тут табе няма й ня будзе чаго рабіць". Тады не прызнаўся й ён, як нікому не прызнаваўся (а ёй — ужо хацеў быў) — што й ягоны бацька — не "бязь вестак загінуў", як казалася ўсім, а таксама, тэй самай дарогай, што ў яе, толькі куды раней, на самым пачатку...**

**І тады — пайшоў зараз жа, не турбуючыся больш аб матцы, цяжка хворай ды такім часам... Разыйшліся зь Верай у розныя бакі — яна вярталася ў горад, і ён таксама вяртаўся — у авіяшколу, у Маскву. Ды зыйдуцца некалі зноў, вернуцца зноў адно да аднаго...**

**І дабраўся-ткі да школы. І добра, што пайшоў, што дабраўся — праўда, тут, толькі тут ягонае месца, толькі адсюль прыйдзе змалку жаданая, чаканая слава...**

**"Ардэнок — як прышпілены", — успомнілася, як сяньня шапнуў камісар.**

**Але ад тых усіх успамінаў было ўсё ж і неяк мулка. Бацьку свайго Віктар памятаў мала, дый баяўся ўспамінаць, каб ня выплыла нек, каб не даведаліся, каб не... І часам бадай — ненавідзеў. Ненавідзеў за тое, што праз нешта, што бацька зрабіў ці не зрабіў, ён, Віктар, мусіць цяпер усьцяж калаціцца ад страху быць выкрытым, злоўленым на "схаваньні соцпаходжаньня", ды яшчэ — "ад контррэвалюцыйнага элемэнту"...**

**Зрэшты, любіў Віктар толькі сябе, і Веру — хіба. Не, не любіў, а хацеў толькі для сябе... Падурному быў пэўны: дасца й гэта, як даецца дасюль усё, што хацеў. Дарма, што цяпер яна на тым баку, і што бацька, і што тады казала так...**

**Перад стартам усмак "храпануў" гадзінкі зь дзьве.**

**VI.**

**"Каханы горад" пераняў сваіх нечаканых гасьцей яшчэ падарозе.**

**Калі Валік, злучаны таксама слухальнікам із радыёапаратам, незнарок прыслухаўся да тых хваляў, што лавіў, седзячы адзадзя за ім ягоны памагаты, слаўны хлопец, штурман-радысты Ахмет Шырахметаў, прыслухаўся барждэжэй дзеля таго, каб адарвацца ад усё тых жа думак, безвыніковых шуканьняў выйсьця "што рабіць", якія падмяняліся правaламі ў поўную пусьціню, у нейкае "абсалютнае нічога", — яму пачуліся раптам гукі, якія сваёй знаёмасьцяй і роднасьцяй глыбака кранулі за сэрца. Ён даў Ахмету знак, і той пакінуў сваё падарожжа па хвалях этэру, навёўшы злоўленае на большую чутнасьць. Цяпер гукі пачалі апранацца ў ваддаўна знаёмыя, квола-далікатныя словы, якія толькі знае простая, ды шчырая, народная нашая песьня:**

*Мае босенькія ножкі,*

*Сьцюдзёна стаяць...*

**Але ж, яна, шырака знаная і на бацькаўшчыне, і далёка за ёй, засмучона-пяшчотная наша "Ў полі вярба". І яшчэ раз, рэфрэнам:**

*Мае босенькія ножкі,*

*Сьцюдзёна стаяць... —*

**Валік адразу занурыўся, патонуў увесь у даўно ўжо ня чутых, а блізка-сваіх гуках, і можа нейкую часіну апарат ішоў сам, запраўды "насьлепа", занядбаны рукою й воляй пілёта. Усё. Як шкада! Але вось — за няўхопным зь непрывычкі голасам чужога дыктара ў малазразумелай мове — "гаворыць"... родны горад, каханы горад! І на тэй самай хвалі, як калісьці гаварыў! Сьпявае, гаворыць у тэй самай мове, якую, казалі там, у іх, забаранілі тут зусім, перасьледуюць... Казалі — пэўна ж, хлусілі, як і хлусяць усё, а хаценьні такія, хаценьні забараніць і сьцерці зусім — самі мелі заўсёды, ды ці мала чаго ўжо пасьцiралі...**

*Мае босенькія ножкі*

*Сьцюдзёна стаяць...*

**адбілося водгульлем, паўтарылася яшчэ раз дзесь глыбака там, у душы. Так, значыцца, блізка ўжо дзесь сам ён, каханы горад. Зараз, зараз ужо**

*... сябру усьміхнецца*

*Знаёмы дом, зялёны сад...*

# Ордэн Шчаснай Панны Марыі з гары Кармэль

Алег Дзярновіч

*(Пачатак у № 8)*

Найбольш моцнае ўражаньне пры наведваньні кармэліцкіх касьцёлаў на Беларусі ствараюць фрэскі. Мова йдзе найперш пра кляштары чаравіковых кармэлітаў на ўсходзе краіны — у Магілёве ды Мсьціславе. Думка выразна фіксуе гэткае рэгіянальнае вылучэньне. А найбольш узрушваюць і, як гэта ні дзіўна, даюць уяўленьне пра сьветапогляд кармэлітаў фрэскі з гістарычным (а не эвангельскім) сюжэтам.

Эфэкт дасягаецца праз супрацьпастаўленьне дынамікі й статыкі. У кампазыцыі «Трубяцкая разьня» (Мсьціслаў) маскоўскія ваяры — вельмі рухавыя, ракурсы — рэзкія, рукавы кашуляў засуканыя да локцяў, твары намаляваныя чырвона-бурнатнымі мазкамі. Ксяндзы, якіх забіваюць — наадварот — статычна спакойныя. Сузіральнасьць прысутнічае і ў другой кампазыцыі — «Узяцьце Мсьціслава расейскімі войскамі». Над местам, ахопленым пажарам, — цёмна-зялёныя кучавыя аблокі. Кірасы, панцыры, тарчы. Жоўта-аранжавыя блікі полымя ўжо на царкве, што стаіць вышэй за ўсе пабудовы, на гары. Але на пярэднім пляне — два рыцары, якія ня ў бітве, але абмяркоўваюць падзею. І нам прапаноўваюць быць больш уважлівымі. Мастак, натуральна, ствараў фрэску па-свойму, сэнс жа закладаўся кармэлітамі.

Істотна, такім чынам, што кармэліты, маючы ўласны досьвед гістарычных спрэчак (з тымі ж езуітамі — *НН* № 8), асаблівы склад гістарычнае сьвядомасьці, прынесьлі свае ўяўленьні й на Беларусь. Яны абсарбавалі рэальны гістарычны матэрыял і апэлююць да дзеяў краю, у якім знаходзяцца. Іхняе місыянэрства патрабавала добрага веданьня мясцовае гісторыі.

Тапагрфаваньне кляштараў чаравіковых кармэлітаў паказвае, што бальшыня іх (прычым — найбольш значных, у тым ліку і ў мастацкім пляне) знаходзіцца на ўсходзе Беларусі, у Падняпроўі, там, дзе мала кляштараў іншых рымскіх законаў, дзе зь сярэдзіны XVII ст. усталёўваецца трывалы балянс — гэта вуніяцкі край з рыма-каталіцкаю прысутнасьцю ў гарадох і з кампактным пасяленьнем праваслаўных у Магілёве. Шмат у такім раскладзе становіцца зразумела, калі ўлічыць, што кармэліты ў набажэнстве скарыстоўвалі й грэка-каталіцкі абрад. Для іх прынцыповае было ўзмацненьне каталіцтва ўвогуле. Паколькі сам кармэліцкі закон выйшаў з Усходу, настолькі традыцыйна адчувальная для яго мяжа паміж хрысьціянствам і нехрысьціянствам, і ў меншай ступені істотныя лякальныя адрозьненьні ў самім хрысьціянстве. Арыенталізм (у сэньсе разуменьня і ўсходняга хрысьціянства) і талеранцыя спрыялі пашырэньню кармэлітаў на Беларусі й Літве.

Існавалі на Беларусі й кармэліты босыя. Прыхільнікі гэтай рэгулы вызначаліся ня толькі суворасьцю (адносіны да абутку; ложак замяняла дошка, пакрытая тканінай), але й найбольшай дэмакратычнасьцю нутраной арганізацыі — выбарнасьцю праз капітулы асноўных пасадаў. Вось жа менавіта суворасьць сталася той асноўнаю рысай, паводле якой і ўспрымалі ў нас кармэлітаў, нягледзячы на памяркоўнасьць першапачатковай рэгулы.

Выкарыстаньне прадстаўнікамі "босае" галіны Ордэну практыкі ўмярцьвеньня плоці зьмяніла больш раньнія погляды на гэты закон. Невыпадкова многія кармэліты вядомыя як фляґелянты — тыя, хто рэгулярна займаўся самалупцаваньнем. Згода чалавека на такі лад жыцьця прадугледжвала й пэўную ступень падрыхтоўкі, што часам межавала з псыхічнай самарэгуляцыяй. Распавядаюць пра аднаго кармэліцкага манаха Аляксандра, які караў сябе бізуном да тае пары, пакуль літаральна не губляў сілы. Потым дзеля працягу экзэкуцыі ён клікаў каго-небудзь з прыслужнікаў на дапамогу. Але калі ніхто не прыходзіў, ён сядаў і духова, у думках прымаў удары, рэканструюючы ўсю працэдуру ў сваім уяўленьні.

Босыя кармэліты былі яшчэ большыя сузіральнікі, чым чаравіковыя: абавязкова дзьве гадзіны штодзённа пакідаліся дзеля развагаў. Хіба дзякуючы гэтаму сярод босых кармэлітаў досыць шырока разьвітая літаратурная й музычная творчасьць.

Мапа кляштараў босых кармэлітаў (а з 1737 яны мелі асобную літоўскую правінцыю Сьвятога Казімера) выглядае так:

1. ВІЛЬНЯ, каля Вострае брамы. У гонар Сьв. Тэрэзы. Кляштар да дзейнага касьцёла прыбудаваў падканцлер Стафан Пац. У 1844 кляштар замкнёны. Сьвятыня краю — абраз Вострабрамскае Божае Маці — знаходзіцца ў гэтых мурох.

2. ВІЛЬНЯ, "Завілейскі". Фундаваны ў канцы XVII ст. Агінскім. Зачынены пасьля паўстаньня ў 1832. У 1837, калі Вяльля падмыла бераг, кляштар разваліўся ды ўпаў з гары.

3. ГЛЫБОКАЕ. Касьцёл Божай Маці ў Небе Каранаванай. Кляштар у 1639 фундаваў мсьціслаўскі ваявода Язэп Корсак. Гэта быў велізарны комплекс са шпіталём, парафіяльнай школай, бібліятэкай, музычнай вучэльняй, аптэкай... Зачынены ў 1862. Цяпер у былым касьцёле — царква Раства Багародзіцы. Насупраць, праз пляц, знаходзіцца касьцёл, збудаваны Янам Х.Глаўбіцам. Два гэтыя будынкі й сёньня фармуюць абліччa плошчы.

4. ГОРАДНЯ. Касьцёл у гонар Падняцьця Сьв. Крыжа. Кляштар фундаваны ў 1668 гарадзенскім старостам Андрэем Катовічам. Зачынены ў 1845. У 1904 будынкі перарobленыя пад кашары.

5. МЕНСК. Пабудаваны ў 1698 у раёне Ракаўскага прадмесьця. Сярод фундатараў — Антоні Сыракомля, Тэадор Ваньковіч... (усё знакамітыя менскія роды). У 1832 зачынены. Ня ведаю нават, дзе падмуркі.

6. ПІНСК. Касьцёл Сьв. Казімера. У 1734 фундаваны багатым беларускім бюргерам Сымонам Асоўскім, ляндвойтам (намесьнікам войта) магдэбурскім. У 1832 кляштар скасаваны, потым разабраны.

7. МЯДЗЕЛ. Касьцёл Сьв. Юстына. У 1754 фундаваны Антоніем Кошыцам. У 1832 зачынены. Цікавы касьцёл захаваўся.

8. ГУДАГАЙ. Фундацыя Войнаў 1764. У 1832 зачынены расейскімі ўладамі. Драўляны касьцёл на гэтай апошняй памежнай чыгуначнай станцыі захаваўся.

Жаночы кляштар босых кармэлітаў існаваў адзіны на ўвесь край — у Вільні, у гонар Сьв. Язэпа. Фундаваны Стафанам Пацам у 1638. Зачынены ў 1876, па загадзе каляніяльных уладаў разабраны, на ягоным мейсцы ў гонар перамогі (над кармэліткамі) наладжаны кірмаш.

Такім чынам, босыя кармэліты засноўвалі свае кляштары на захадзе Беларусі, у рэгіёне большага пашырэньня рыма-каталіцтва. Аскеза — ня самы спрыяльны сродак у місыянэрстве. Апроч таго, сваю задачу яны бачылі перш ва ўдасканаленьні ладу рыма-каталіцкага жыцьця, і міжканфэсыйныя праблемы займалі іх найменш. Але грэка-каталіцкі абрад ужывалі й яны, напрыклад, у Вострай браме.

Як і чаравіковыя, босыя кармэліты носяць брунатныя рызы. Асаблівае мейсца ў вопратцы (і ў сьветапоглядзе) займаюць scapulare (наплечнікі) — дзьве палоскі сьветла-шэрае тканіны, што зьвешваюцца на грудзі й на сьпіну, замацаваныя на плячох. Лічыцца, гэта вопратка, якую ў знак адметнасьці кармэлітам прынесла сама Божая Маці. Тыя, хто носіць scapulare, будуць выратаваныя.

Такія сьцьверджаньні выклікаюць моцную крытыку з боку праваслаўных тэолягаў. Тут погляды дзьвюх хрысьціянскіх канфэсіяў разыходзяцца. Наагул жа, у каталікоў больш увагі надаецца матэрыяльным аб'ектам, менавіта іх часьцей дасягае сакральнасьць, а ў некаторых выпадках яна дасягаецца й праз іх. Дзякуючы ў тым ліку й гэтаму, каталіцтва як практыка у большай ступені падлягае мадэрнізацыі. Затое праваслаўе можа ў большай ступені апэляваць да традыцыяналізму, да вернасьці канонам раньняга хрысьціянства. Зразумела, усё гэта я кажу як сьвецкі чалавек.

У Новым часе кармэліты — адзін з самых дынамічных законаў. Значная колькасьць кляштараў у ЗША, Мэсапатаміі, на Карыбах узьнікла ў XX ст.

"Кармэль" з гэбрайскае — "парк", "сад". І сёньня на гары Кармэль квітнеюць лаўровыя й алейныя дрэвы, гіяцынты.

# Barbastella Barbastella

*"Вось сымбаль твой, забыты краю родны!"*

Як вядома з *НН* № 8, сваіх сысуноў у Новай Зэляндыі не было. А першымі да гэтых выспаў дасягнулі два віды кажаноў, бо таму, хто ўмее лётаць, адлегласьць — невялікая перашкода. На Беларусі ж відавы склад скрыдларукіх нашмат багацейшы. 4 зь іх ужо нават патрапілі ў Чырвоную кнігу. Разам з шыракавушкай эўрапейскай.

Называецца гэтая шыракавушка (Barbastella Barbastella) эўрапейскай таму, што жыве выключна ў Эўропе. Натуральна, усходняя мяжа ейнага арэалу прыпадае на Беларусь. Гэта зусім маленькі кажанок сямейства гладканосых, усяго 9-14 гр. вагі, мае надта вялікія (са чвэрць тулава даўжынёю) вушы, якія зрасьліся каля галавы разам. Крылы мае досыць вузкія для кажаноў, але лётае порстка, зьнянацку рэзка паварочвае ў паветры. Жыве ў дуплах, часам за шалёўкаю будынкаў, а па начох нястомна сілкуецца кузюркамі ды інсэктамі.

Падобна, што шыракавушка хітрэйшая за іншых кажаноў, бо ня толькі палюе ў паветры, але й ахайна выцягвае сонных матылёў зь іхніх схованак. А пасьля цэлы дзень яна сьпіць разам са сваёй калёніяй. У першай палове лета гэтыя калёніі яшчэ невялікія, а пад зіму ў іх зьбіраюцца сотні шыракавушак, і зімуюць, як тое належыць кажанам, у скляпеньнях, дзе "замінаюць" людзям.

Нягледзячы на тое, што шыракавушка — карысны санітар і зусім бескарысная як прамысловая жывёліна, сустракаецца яна ў нас надзвычай рэдка. Адзіная ў яе "ахова" ад чалавека — штраф у 10 рублёў, які зацьверджаны ў 1978 годзе. Вушасты кажан ацэнены па вазе! (Як, зрэшты, і ўсе астатнія. Напрыклад, дзік каштуе браканьеру 300 рбл.) Дзіўна, — а чаму не па вушах?..



# Каханы горад

быя водбліскі. Хіба ад ягонага ліхтарыка? Згасіў, не — тое самае. Мусіць, вогнішча нейдзе. Дык лепш ня рыпацца далей — мала на каго можна яшчэ напароцца. Сьвежы ж яшчэ тут зусім чалавек, хто іх ведае, што тут у іх і як, якія парадкі...

Аднак, усё ж брала цікавасьць. Юрка стаяў, напружана ўслухваючыся і ўглядаючыся перад сабою. Пакрысе рашчулася — не, хіба ж не здавалася — трэск поламя і — ці не галасы?.. Эге, дык назад...

Ды цікавасьць брала ўсё ж сваё — падцікацца бліжэй, падгледзець хоць. "Можна, толькі асьцярожна", — часам любіў гаварыць сабе Юрка. І кіруючыся гэтым правілам, ён памалу пачаў прадзірацца далей, на тое трымценьне водбліскаў. Неўзабаве не было ўжо няпэўнасьці — вогнішча й галасы, здаецца, дзіцячыя. Дзеці ўначы ў лесе? Начлег? Але ж, здаецца, скрозь лес. Вось раптам адтуль проста на Юрку затупаў нехта, неяк медзьведзявата. Юрка застыг, прытуліўшыся да дрэва. Тупат спыніўся недалёка ад яго, і пачуўся трэск — нехта ламаў, мусіць, сухастоінку на цяпло. Ламаў доўга, відаць, што нейкі малы. Юрка мусіў чакаць, не варушачыся. Вось павалок па зямлі, барануючы галінамі. Юрка памалу пачаў пасоўвацца сьледам тых гукаў. Далей трэба было ўжо падыходзіць, хаваючыся за дрэвамі. І нарэшце-ткі вачом адкрылася, як і меркаваў: невялічкая, мусіць балацяная, палянка сярод лесу, вогнішча ды пры ім — чатыры хлапчукі. Адзін, зусім малы — мусіць, той, што ламаў і валок сухастоіну, падкладае ў цяпло. Другі стаіць так, і двух яшчэ, расьцягнуўшыся на зямлі, узлокціўшыся, тварамі да цяпла. Падыйсьці хіба няма асаблівае небясьпекі, і цікава, дый зарыентавацца, пэўна, памогуць. Толькі — скінуць хіба гэты камбінэзон, зраджвае ж адразу? Але "кавалерчыкам" ці ня будзе больш падазрона? Дый прадрыжысься да раньня ад холаду, хіба, што каля вогнішча... Ды што там — малых баяцца? Барджджэй якраз іх напалохаць можна.

І Юрка, не хаваючыся больш, запраставаў да вогнішча. Тыя пачулі ўжо, начыпурыліся, павярнулі галовы ў ягоным кірунку, углядаючыся ў цемру, але больш ніяк не зьмянілі паставаў — нат два, што ляжалі, ня ўсталі зь зямлі, Сполаху, значыцца, ня выйшла.

— Здаровы, мужчыны! — вясёла прывітаўся Юрка, падыйшоўшы.

— Здрастуйця, — адказаў за ўсіх малы, і ўсе прыглядаліся далей, больш зь цікавасьцяй, чымся із сполахам, або можа ўмелі ўжо схаваць яго.

— Начлег? — спытаўся Юрка.

Усе маўчалі. Толькі пачакаўшы, адзін із тых, што ляжалі, працягнуў ціха, нек няўпэўнена:

— Начлег...

— А самі адкуль будзеце? — бітка пачаў допыт ізноў малы, адразу паставіўшы Юрку да шуканьня належнага адказу.

— Што ты, Мечык, бязвокі? — кінуў яму ціха той, што стаяў.

— Да хлопцаў? — не ўтаймоўваўся малы.

— Да якіх хлопцаў?

— Ды да Юзік... — ён заціўся і дадаў цішэй, з асьцярогаю: — да парцізантаў.

"Вось табе й штука — нейдзе й гэтыя тут... Дрэнь, і не падумалася зусім. Так блізка ад гораду?" — занепакоіўся Юрка. Ды нельга было цягнуць з адказам.

— Не, ня знаю ніякіх такіх.

— А-а? — недаверліва працягнуў малы. — А чаму ж па-ра-шуцісты? — вымавіў ён, расьцягваючы не такое ўжо, відаць, нязвыклае слова.

— А ты што... бачыў такіх?

— Іга, колькі хочаце, — борзьдзенька адказаў, ня даўшы й разьзявіцца малому, другі зь зямлі, што маўчаў дагэтуль, — як пачне сыпаць — як гарохам...

— Сам ты гарохам сыплеш, — стала абарваў яго малы, трапна характаразуючы пры гэтым спосаб гаворкі сябрука.

— Ты ўжо вельмі, Мечык...

— Ого, дык вы, бачу, пісьменныя ўсе! — вясёла праказаў Юрка, паставіўшы падсесьці да хлапчукоў, да цяпла. Побач зь ім зараз жа ўсадавіўся й той пракідкі малы.

— Але ты, Мечык, — зьвярнуўся да яго Юрка, хоць і ўсякіх бачыў, а такіх як я, — пэўна, што не...

— Во... а чаму вы ведаеце, што я — Мечык? — ускінуўся той адразу.

— Цябе ж, браце, па ўсім сьвеце ведаюць, — адказаў за Юрку той, што ўсё яшчэ стаяў, і цяпер, поркаючы палкаю, папраўляў цяпло. Ды тут жа й растлумачыў: — Дзядзя ж чуў, як мы на цябе казалі.

— А-а, — крыху расчаравана працягнуў Мечык, але зараз жа падсунуўся бліжэй да Юркі і нават лопнуўшы яго ўжо панібрацка па калене ды хітратаямніча падміргнуўшы, паўшэптам прапалатаў: — А мы ведаем, дзе цяпер хлопцы...

— Непатрэбныя мне зусім вашыя хлопцы, Мечык, — адказаў Юрка.

# Годо ня прыйдзе, бо яго няма



**Прамова Вацлава Гавэла з нагоды прыняцьця яго ў Францускую Акадэмію Маральных і Палітычных Навукаў 27 кастрычніка 1992 году**

Спадарыні й спадары,

Я прыехаў да вас з краіны, якая доўгія гады чакала свабоды. Хай мне будзе дазволена скарыстаць гэтую акалічнасьць, каб на хвіліну паразважаць над зьяваю чаканьня.

Чакаць можна па-рознаму.

На адным канцы шырокае палітры разнастайных формаў чаканьня месьціцца "чаканьне Годо" — увасабленьне вызваленьня або ўнівэрсальнага збаўленьня. Чаканьне шмат каго з нас, людзей са сфэры камунізму, часта, а можа й заўсёды было блізкае да гэтай скрайняй пазыцыі. Абкладзеныя, распластаныя на дыбе, скалянізаваныя знутры таталітарызмам, людзі кінулі ўсялякую надзею й імкненьне да дзеяньняў, страцілі нават пачуцьцё, што могуць дзеяць. Карацей кажучы, страцілі надзею.

Але ня страцілі патрэбы надзеі; не маглі яе пахаваць, бо жыцьцё без надзеі траціць сэнс. І таму чакалі Годо. Ня могучы выкрасіць надзею зь сябе самых, яны зьмясьцілі яе ў неакрэсьленым збаўленьні, якое мела прыплысьці звонку. Аднак чаканы Годо не прыходзіць ніколі, таму што не йснуе, ён — толькі заменная постаць надзеі. Гэты твор нашай немачы — не надзея, а толькі падман, які мусіць залатаць пашарпаную душу. Але й гэты лапік падзерты. Надзея індывідаў, пазбаўленых надзеі.

На другім канцы палітры віднеецца іншы род чаканьня — цярплівасьць. Гэтае чаканьне падсьвечваецца вераю, што супраціў праз гаварэньне праўды ёсьць пытаньнем прынцыпу, што проста трэба рабіць гэта без разьліку, ці гэта дасьць нейкі плён, ці назаўсёды застанецца дарэмным. Гэтае чаканьне чэрпае сілу зь перакананьня, што паўтарэньне праўды само ў сабе мае сэнс, хоць бы той, што яно — пралом ва ўсеагульнай хлусьні, незалежна ад таго, ці бунтарская праўда будзе калі-небудзь ацэненая, ці яна пераможа, ці, наадварот, будзе — як ужо столькі разоў бывала — задушаная.

Такое чаканьне падсьвечваецца таксама, хоць ужо толькі на другім пляне, вераю, што пасеянае зерне пусьціць карані й некалі ўзыйдзе. Калі — ніхто ня ведае. Некалі. Можа, для наступных пакаленьняў. Такая пазыцыя, якую мы для спрашчэньня назавем дысыдэнцкай, закладала й культывавала цярплівасьць. Мы навучыліся быць цярплівымі, мы навучыліся чакаць: чаканьне было цярплівасьцю. Яно было выяўленьнем надзеі, а не яе адсутнасьці. Можна сказаць, што чаканьне Годо ня мае сэнсу, што гэтак мы хлусім самі сабе й марнуем час, затое мае сэнс той другі род чаканьня. Ён — не ўсыпляльная хлусьня, а горкае жыцьцё ў праўдзе; такім чынам, час ня траціцца, а напаўняецца.

Чаканьне, пакуль ня ўзыйдзе здаровае насеньне — гэта штось іншае, як чаканьне, пакуль заквітнее лілея, якую мы ніколі не саджалі.

Трэба сьцерагчыся непаразуменьняў. Грамадзяне, якія жылі на камуністычных абшарах, не дзяліліся на чакальнікаў Годо й дысыдэнтаў. Усе мы ў нейкай ступені то чакалі Годо, а то былі дысыдэнтамі; адныя мацней і часьцей выбіралі першую пазыцыю, другія — другую. І ўсё ж з гэтага досьведу можна зрабіць выснову, што адно чаканьне ня роўнае другому. Мае развагі, ясная рэч, не вынікаюць з актуальнай патрэбы настальгічнага згадваньня мінуўшчыны. Я хачу, дзякуючы ім, высьветліць, што вынікае з гэтага досьведу для сучаснасьці й будучыні.

Хай спадарства дазволіць мне гаварыць у першай асобе: нягледзячы на тое, што я быў спрактыкаваны ў цярплівым чаканьні, што ўласьцівае дысыдэнтам, і перакананы ў ягоным глыбокім сэньсе, апошнія тры гады ад моманту мірнай антытаталітарнай рэвалюцыі я, як хлапчук, паддаўся нецярплівасьці, што межавала з роспаччу. Я засмучаўся, што зьмены не прыходзяць дастаткова хутка, што мая краіна ўсё яшчэ ня мае новай дэмакратычнай канстытуцыі, што чэхі й славакі ніяк ня здолеюць супольна ўжыцца ў адной дзяржаве, што ня надта хутка мы набліжаемся да дэмакратычнага заходняга сьвету й ягоных інстытуцыяў, што ня ўмеем мудра азірнуцца назад, што занадта павольна прыбіраем рэшткі былога рэжыму й ягонай маральнай галечы.

У роспачы я прагнуў ажыцьцявіць хоць адну з гэтых мэтаў і выкрасьліць яе з календара як вырашаную або зьліквідаваную праблему. Хай бы праца, якую я выконваў, стоячы на чале дзяржавы, дала нарэшце відавочны, неабвержны, адчувальны, неаспрэчны плён — штосьці закончанае. Я ня мог пагадзіцца з думкай, што палітыка ня мае канца, як і гісторыя. Яна — працэс, які ніколі не дазваляе сказаць, што нешта было закончанае, выкананае, закрытае.

Я быццам проста забыўся, што трэба чакаць, чакаць у гэтым адзіным дарэчным сэньсе слова. Сёньня з аддаленьня я магу спакойна пра гэта паразважаць. І я пачынаю разумець, што праз сваю нецярплівасьць я трапіў якраз у тую пастку, якую заўсёды аналізаваў крытычна. Я стаўся ахвяраю дэструкцыйнай нецярплівасьці, якая ўласьцівая сучаснай тэхнакратычнай цывілізацыі, якая саманадзейна верыць у свой рацыяналізм і памылкова перакананая, што сьвет — вялікая крыжаванка, у якой для кожнай праблемы йснуе толькі адное слушнае рашэньне — нібыта аб'ектыўнае — тэрмін якога яна вызначае сама.

Я сабе гэта не ўсьведамляў, але фактычна даў сябе падмануць пэрвэрсыйнай пэўнасьці, што я — абсалютны ўладар рэчаіснасьці, адзіная місія якога — удасканаленьне гэтай рэчаіснасьці паводле ўсталяванае формулы. А паколькі я адзін меўся вырашаць, калі гэта станецца, дык ня бачыў прычыны, каб яму ня стацца зараз.

Адным словам, я ўявіў сябе гаспадаром часу.

Гэта была вялікая памылка.

Сьветам, існаваньнем і гісторыяй кіруе іх уласны час; мы можам, што праўда, творча ўмешвацца, аднак ніхто над ім не пануе бязьмежна. Сьвет і йснаваньне ня слухаюцца сьлепа загадаў тэхнакратаў і тэхнікаў ад палітыкі; не на тое яны йснуюць, каб задавальняць іх намеры. Сьвет, чалавек і гісторыя маюць свае неспадзяванкі й сакрэты, якімі дзівяць сучасны рацыяналістычны ў сваёй істоце розум і кіруюцца сваёй поўнай паваротаў падземнай плыньню. Хто хоча зьліквідаваць гэтую незразумелую пакручастасьць, ставячы перад ёю д'ябальскія грэблі, наклікае на сябе вялікую рызыку: ад высыханьня падземных водаў да трагічных зьменаў у біясфэры.

Наўмысна прыгадваючы маю палітычную нецярплівасьць, мушу сьцьвердзіць, што сёньняшні й заўтрашні палітык — дазвольце назваць яго пост-сучасным палітыкам — мусіць навучыцца чакаць. Гаворка тут не пра чаканьне Годо. Чаканьне, пра якое я кажу, мусіць выяўляць пашану да іманэнтнага прыроднага руху і ладу, да прыроды рэчаў, іх існаваньня і аўтаномнай дынамікі, якая супраціўляецца гвалтоўным маніпуляцыям. Гэтак чакаць — значыць дазволіць кожнай зьяве свабодна разьвіваць сваю прыроду, сваю сапраўдную субстанцыю. Дзеяньні пост-сучаснага палітыка павінны абапірацца не на безаблічны аналіз, а на асабістае бачаньне. Замест таго, каб абапірацца на пыху, трэба жывіцца пакораю.

Сьвет не машына, і таму ён супраціўляецца абсалютнаму кантролю. Таму нельга яго перабудаваць ад падмурку аж да даху ў імя нейкай тэхнічнай канцэпцыі. Утапісты, якія гэтак думаюць, спрычыняюць урэшце нясьцерпныя пакуты. Калі розум аддзеліцца ад чалавечае душы —, якая з прыроды адзіная й непаўторная — і назавецца галоўным маторам палітычнага дзеяньня, ён можа прынесьці адныя няшчасьці.

Сьвет паўстае супраць ладу, накінутага розумам, які відавочна забыўся, што ён толькі сьціплая шрубка ў найбагацейшай архітэктурнай канструкцыі, якой ёсьць сьвет. Чым болей сьвет мусіць прыстасоўвацца да катэгорыяў розуму, тым мацнейшыя ірацыянальныя выбухі, якімі ён нас зьдзіўляе.

Я, саркастычны крытык фанабэрыстых экзэгетаў нашае юдолі, мусіў сабе прыгадаць, што сьвет трэба ня толькі тлумачыць, трэба яго таксама й разумець. Недастаткова накінуць яму толькі свае словы, трэба таксама падставіць вуха, каб пачуць ягоныя, часам спрэчныя, шматгалосныя паведамленьні. Недастаткова навукова апісаць мэханізмы рэчаў і зьяваў, трэба іх чуць і выпрабоўваць.

Ня трэба разьлічваць выключна на каляндар, які мы сабе вызначылі для ўзьдзеяньня на сьвет, трэба шанаваць каляндар значна больш складаны, каляндар, які вызначае сьвет і які ёсьць адным з тысячы самастойных календароў, якія кіруюць незьлічоным мноствам натуральных гістарычных і людзкіх зьяваў.

Ня трэба чакаць Годо.

Годо ня прыйдзе, бо яго няма.

Няма патрэбы таксама яго прыдумляць. Тыповым прыкладам Годо зь летуценьняў, Годо, які прыйшоў, але быў фальшывы, Годо, які абяцаў збаўленьне, а сам толькі нішчыў і катаваў, быў камунізм.

І я з жахам зразумеў, што мая нецярплівасьць як найхутчэй адбудаваць дэмакратыю, мела ў сабе нешта камуністычнае, або, гаворачы шырэй, нешта рацыяналістычнае, штосьці асьветніцкае. Я хацеў прысьпешыць бег гісторыі, як дзіцё, якое цягне расьліну, каб тая хутчэй расла.

Я думаю, трэба навучыцца чакаць, так як мы вучымся тварыць. Трэба цярпліва сеяць, сыстэматычна паліваць зямлю й даць расьлінам час, бо гэткая ў іх прырода.

*Працяг на старонцы 18.*



## Каханы горад

— А ты што, верыш у цуды? — спытаўся ён, успомніўшы, што ў школе гэты "Качка" быў "упаўнаважаным" "Бязбожніка". Праўда, уся ягоная "работа" палягала выключна на зьбіраньні сяброўскіх складак...

— А як жа, што ты, уяўляю. Мае бацькі заўсёды былі "рэгіліёзныя"...

"Скончыў дзесяцігодку, а й такога слова ня вымавіць", — мільганула ў Юркі.

— ... і мяне, хоць крыючыся, а так гадавалі. Дый, падумаўшы-ткі, нешта ёсьць...

"Нешта ёсьць" — прыгадалася зноў учарайшае Юрку.

— Нешта й тут знойдзем, ня можа быць, — ня даў далей думаць "Качка", адчыняючы дзьверы ў нейкі цёмны калідорчык. — Форзыхт, прыступкі! Налева!

Яны ўвайшлі ў поўную людзей, дыму, чаду й п'янoe гаманы "кнайпу".

XI.

Юрка адразу выпіў адным духам поўную шклянку нейкае, мусіць, самагонкі, даволі-ткі гадкае на смак. "Качка", хоць і дужа хваліў яе перад гэтым і, відаць, вельмі хацеў дараўнавацца ў выпівацкім гэройсьцьве Юрку, адужаў усяго ледзь палавіну. Закусілі кіслай капустай, ужо, праўда, вельмі смачной, як умеюць яе квасіць хіба што толькі ў нас на Беларусі.

Гарэлка ані не ўзяла Юрку, і ён моўчкі, панура разглядаўся па "кнайпе" і ейных гасьцёх, хоць за густым, ядучым дымам разнастайнага тытуну васннае прадукцыі й цяжка было каго ці што разгледзець. Паўтарылі яшчэ. "Качка", падлятаючы ўжо крыху языком, пачаў "раскрываць сваю душу" перад Юркам. Цяпер ён канчальна стаецца вынаходнікам — ягонае, яшчэ школьнае летуценьне, хоць якраз фізыка давалася яму ў школе туга, і як сьлед "вынаходнік", пэўна, і цяпер яе ня ведаў ды ня мог бы даць рады з прасьценькім разьлікам. Ды дармо — у яго ўжо разьлічаны й зусім распрацаваны такі вынахад, такі вынахад... Поўны пераварот у сьвеце, а найперш — у гэтай вайне. Борздая перамога новай Эўропы над бальшавізмам, над плютакратамі, а адкуль? Зь Беларусі, якая тым самым заваюе сабе першае месца ў гэтай новай Эўропе. А патэнт у каго? У Беларусі, у Юшкі Кіпця ў руках. "У кіпцях", — панура мільганула ў Юркі, і ён таксама паглядзеў на "Качкавы" кіпці з густой чорна-сіняй "жалобай" пад імі... Але ж, жалоба — гэта ў яго, у Юркі, запраўдная жалоба, чорна-чорная,..

А "вынаходнік" хваліўся далей, што пачаў ужо будаваць мадэль свайго незвычайнага вынахаду. Праўда, тугавата з гэтым — вайна, правінцыя, няма патрэбных частак, матар'ялаў, майстроў... Юрка слухаў яго зусім безуважна, горка думаючы пра тую сваю жалобу, і "Качка" мусіў нагнуцца да яго блізенька, узяць за штрыфелі марынаркі й адкрыць яму ўжо сакрэт, калі таму так ужо цікава, хоць цікавасьць гэтая анічым яшчэ ня выявілася, а барджэй наадварот, пачынала паказвацца абрыджонасьць. І Юрка моўчкі, але станоўка, адчапіў Юшкавы пальцы-кіпці ад сваіх штрыфляў. Ну, калі Юрка ўжо так хоча, дык яму скажацца: гэта мае быць — груба кажучы, толькі груба, як ляіку — велізарны магнэс, які мамэнтальна прыцягвае да сябе, скідае далоў на зямлю самалёты. Га, што за штучка? Адразу перамога на тым баку, які будзе мець гэткую машыну: варагавая авіяцыя спаралізаваная, свая дзеіць бесперашкодна, і ўсё ў шапцы. А тады Юшка возьмецца за другі, яшчэ больш вынахад, які ў ідэі ў яго зусім гатовы й прынясе шчасьце ўжо цэламу чалавецтву, ды зноў жа — з рук Беларусі, зь ягоных, Юшкавых рук... Гэта няпраўда, што вечны рухавік — "пэрпэтуй мабіль", сказаў "Качка" — немагчымы. Ён давёў адваротнае, усё выходзіць... А тады — ого, тады! Тады Юшку дасцца ўся ўлада ў рукі — ну, значыцца, пішацца паперка, што ўся ўлада — Юшку, і ён уладжвае ўсё па-свойму. Трэба мець толькі ўладу, ну, паперку, і ўся маса пойдзе за табою. Калі адразу й ня надта захоча йсьці — можна крышку й падапукаць, як бальшавікі ў сямнаццатым годзе...

Юрка ўсёроўна ня слухаў, і "Качка" крыху перасьціх. Але неўзабаве, выснаваўшы, мабыць, із свайго разумаваньня над прычынаю Юркавае безуважнасьці да такіх цікавых пытаньняў, ён выпаліў:

— Начхні ты на гэтую Верку, браце. І яна зусім спэцкалася была апошнім часам, із паліцыянтамі круціць пачала, і не з адным, а з двума адразу...

— Вера? — пракруціў ацяжэлым, яму здавалася — толькі цяпер, языком Юрка. У яго зноў уздымалася аднекуль із глыбі залеглае там яшчэ раней жаданьне цяжка аплявушыць гэтага болбатня.

— Ну але. Вунь, адзін зь іх ці не сядзіць у гэтай кумпаніі, — "Качка" паказаў галавой у кут. Там сядзелі й гаманілі ўсе адразу, мусіць, добра ўжо пацягнуўшы, нейкія маладыя хлапцы ў чорнай, вайсковага тыпу ўніформе. "Дык гэта такія ў іх паліцыянты, — падумалася Юрку, — добра ведаць!" — хоць ён і ня

# Адысэй і хуткасьць гуку

Размова з Томасам Венцлавам

**Гэтым летам у Летуву прыяжджаў ведамы паэт, крытык і навуковец, прафэсар Ейльскага ўнівэрсытэту (Yale) Томас Венцлава. На Каляды *НН* надрукавала два вершы паэта, а ў часе летняга прыезду ён даў інтэрвію газэце *Literatura ir Menas*.**

Пераклад тэксту гэтай размовы мы друкуем зь нявялікімі скарачэньнямі.



***Перадусім што прывяло вас у Вільню?***

Як звычайна, улетку я падарожнічаю сабе па Эўропе. У часе падарожжа хачу і адпачыць, і папрацаваць. Цяпер я пішу па-ангельску манаграфію пра польскага літаратара Аляксандра Вата. Гэта цікавы аўтар. Старэйшы прыяцель, нават настаўнік Чэслава Мілаша. Ён адзін зь вялікіх польскіх пісьменьнікаў дваццатага стагодзьдзя, пра якога няма манаграфіі па-ангельску. Я ўзяўся за гэтую паляністычную працу, каб лепш угрунтавацца ў акадэмічным жыцьці Амэрыкі. На жаль, у Амэрыцы працы з галіны літуаністыкі цэняцца мала, бо наша літаратура меншая колькасна, хоць можа й ня горшая якасна. Дык вось, у Парыжы я наведаў сына Аляксандра Вата, пасьля шмат часу правёў у варшаўскіх бібліятэках, дзе вывучаў пэрыёдыку.

Апроч Парыжу й Варшавы, я пабываў яшчэ ў Італіі й Грэцыі, дзе некалькі начэй правёў на востраве Ітака, стаяў на руінах палацу Адысэя. Вобраз Адысэя — вельмі важны ў маім жыцьці, я нават сказаў бы, што гэта мой асабісты прататып. Як высьвятляецца, ня так ужо й цяжка дабрацца да Ітакі, а жыцьцё там — спакойнае й таннае. Я хацеў бы некалі наняць на востраве які-небудзь домік і пажыць там даўжэй. З Грэцыі праз Балгарыю, Румынію, Славакію я дабраўся да Варшавы — зьведаў некалькі эўрапейскіх краін, у якіх раней ня быў. У Эўропе мне засталося пабываць толькі ў Альбаніі, на Мальце й Кіпры. Я своеасаблівы калекцыянэр краінаў. А з Варшавы вырашыў наведаць Вільню з выключна прыватнымі мэтамі.

***На жаль, большасьць грамадзянаў Летувы ня зьведала прыемнасьці падарожжа па сьлядох гістарычнага героя. Сёньня летувісы часьцей наведваюць стамбульскі рынак...***

Я таксама шмат часу правёў на рынку ў Стамбуле. Пытаўся там, дзе знаходзіцца музэй Адама Міцкевіча. Турэцкія гандляры былі ветлівыя, частавалі кавай, стараліся дапамагчы. Я адшукаў музэй, а ў ім кінуліся ў вочы і ўзрушылі выявы Коўна й Вільні. Наогул, чым болей краінаў я наведваю, тым больш пераконваюся, што віленскі стары горад мае сусьветнае значэньне, і яго абавязкова трэба захаваць.

***У Летуве, у Вільні ці пачуваліся вы, як Адысэй пасьля звароту на Ітаку?***

Наведаньне Ітакі было нечым накшталт спаўненьня маёй уласнай легенды, а праз шмат гадоў стала магчымае вольнае наведаньне Айчыны (доўгі час я думаў, што мне гэтага зрабіць ня ўдасца). Цяпер, як і напрыканцы паэмы Адысэя, маё жыцьцё ўнармалізавалася шмат у чым. Вось жа й цяперашні прыезд у Летуву — пэўнае спаўненьне легенды пра Адысэя. Я сьвядома спрабую ўжывіць у сваё жыцьцё гэты прататып. Notabene, адной з мэтаў у Вільні была падпіска на летувіскую прэсу, бо ўжо цэлае паўгодзьдзе не атрымліваю яе, што стала невыносна. Па вырашэньні іншых асабістых справаў рушу ў Варшаву, а адтуль у Амэрыку.

***У Вільні Вы пазнаёміліся са сваёй справай, матэрыялы да якой зьбіраў КГБ.***

Уражаньне ад будынку КГБ... Калі зноў прыгадаем легенду пра Адысэя, дык у сваім жыцьці я бачыў і Цыклёпа, і Цырцэю, і Лестрыгонаў. З алегарычнага пункту гледжаньня я паспытаў усіх прыгодаў Адысэя. Візыт у КГБ — гэта таксама адна з прыгодаў на востраве Лестрыгонаў. А мая справа — хутчэй сьмешная, чым страшная, пры чым — вялікая, тоўстая. У ёй шмат маіх прыватных лістоў, якія ўскрываліся, зь якіх рабіліся копіі, а арыгіналы, нягледзячы ні на што, дастаўляліся адрасатам. Ёсьць і такія лісты, якіх адрасаты не атрымалі. Ідучы знаёміцца са справай, я баяўся даведацца, што нехта з маіх блізкіх знаёмых запляміўся. Аднак не было такіх выпадкаў, пра якія я ня ведаў раней. Хутчэй наадварот — за большасьцю маіх прыяцеляў і блізкіх сачылі ня менш, чымся за мной.

***Дзякуй Богу, не давялося зазнаць горычы здрады.***

Не. Такога расчараваньня, як гэта часта цяпер здараецца пры вывучэньні справаў штазі былой ГДР, калі аказваецца, што найбліжэйшыя прыяцелі на працягу многіх гадоў сачылі адзін за адным, я ня маю. Праўда, у гэтай справе ёсьць два выпадкі, калі два мае блізкія знаёмцы сачылі за мною, але я ведаў пра тое ўжо раней...

***Праблема адносінаў з КГБ цяпер у Летуве вельмі актуальная, а часам, як здаецца, нават разьдзьмутая. Якая пазыцыя нашых людзей у гэтай сітуацыі ўяўляецца Вам найбольш адпаведнай?***

Няма таямніцы, што шмат культурных дзеячоў Летувы заплямілася сувязяй з КГБ. Мушу сказаць, што большасьць выкрытых прозьвішчаў не былі для мяне нечаканасьцю. Хоць наогул такое высьвятленьне, хто быў агентам, а хто ня быў, — нядобрая справа, бо большасьць тых людзей маюць дзяцей, якія не нясуць віны за грахі бацькоў. Таму я таксама падтрымаў бы ідэю, што трэба было б як найхутчэй склікаць камісію прысяжных, якая вывучыла б тыя справы, але нікога шырэй не інфармавала. Можа ў некаторых выпадках была б папярэджаная несправядлівая кампрамэтацыя асобы...

***Акрамя манаграфіі пра Аляксандра Вата, чым цяпер вы займаецеся ў Амэрыцы й чым зьбіраецеся займацца?***

Я пішу таксама іншыя рэчы, пішу вершы, як заўсёды няшмат, у часопісе Metmenys неўзабаве зьявіцца досыць даўгі верш «Шчасьлівая Аўстрыя». Гэта можна зразумець і як "Шчасьлівая Летува"... Ходзіць таксама чутка, што перабіраюся ў Чыкага, на катэдру літуаністыкі. Магчыма, так яно й будзе.

***Ці падзеліцеся Вы некалі сваім досьведам і зь летувіскімі студэнтамі?***

Так. Дагэтуль мне перашкаджала тая акалічнасьць, што я ня меў у Амэрыцы сталага кантракту. Мае кантракты што тры гады працягваліся, але для кожнага ў акадэмічным жыцьці Амэрыкі настае такая хвіліна, што альбо атрымліваеш сталы кантракт, альбо... рабі, што хочаш. Гэта вельмі прыкрыя рэчы... Калі атрымліваеш кантракт, дык аж да пэнсіі маеш забясьпечаны лёс. Цяпер я ўжо маю такі кантракт, праз што раблюся вальнейшы, маю болей магчымасьцяў наведваць Летуву. Не выключаю, што раней ці пазьней перабяруся ў Летуву на стала. Але лепей гэта было б зрабіць пазьней, бо ў Амэрыцы можна зрабіць яшчэ шмат карыснага, таксама й на дзялянцы літуаністыкі.

***Пісьменьнікі-эмігранты цяпер ахвотна друкуюцца ў Летуве. Нам трэба пазнаёміцца з гэтай літаратурай, эстэтыкай. Што б вы параілі, напрыклад, газэце Literatura ir menas, каб найхутчэй пераадолець бар'еры хуткасьці гуку?***

Жыцьцё эміграцыі ўжо сёньня вы асьвятляеце досыць шырока.. Можа толькі патрэбны пэўны выбар, таму што ў нас на эміграцыі ўжо ўсталявалася пэўная іерархія, на якую вы не заўсёды зважаеце. У такім выпадку які-небудзь трэцярадны пісьменьнік ацэньваецца нароўні зь першарадным. Па-другое, Летува сёньня стараецца арыентавацца на Захад, што ўхвальна, але я раіў бы не перагінаць палку бозі перад расейцамі й палякамі. У палітычным аспэкце гэта зразумела і апраўдана, аднак нельга ігнараваць літаратуры Ўсходняй Эўропы. Трэба было б нават цікавіцца больш, чым звычайна, таму што гэтыя літаратуры ў многіх сэнсах нам бліжэйшыя, чым скажам, француская ці скандынаўская. Досьвед той самы. Магчыма, я тут не зусім аб'ектыўны, таму што расейская й польская літаратуры — гэта мая спэцыяльнасьць. Чэслаў Мілаш быў тут прыняты з гонарам і стаў ганаровым грамадзянінам Летувы; існуе й яшчэ шмат добрых польскіх пісьменьнікаў. Тое ж можна сказаць і пра Расею, якая дэмакратызуецца, а таксама пра Расею эміграцкую.

***А іншыя краіны?***

Я сам вельмі хацеў бы працаваць у такой дзялцы, у якой працуе польскі паэт Станіслаў Бранчак, кіраўнік катэдры польскай літаратуры ў Гарвардзкім Унівэрсытэце. Ён эмігрант падобнага лёсу і цяпер перакладае вельмі шмат ангельскай і амэрыканскай паэзіі. Перакладае дасканала. Калі я буду мець больш вольнага часу, дык з прыемнасьцю займуся падрыхтоўкай анталёгіі сучаснай ангельскай і амэрыканскай паэзіі. Ёсьць шмат паэтаў, зусім невядомых у Летуве.

---

**мог бы вытлумачыць, чаму гэта яму "добра ведаць". І раптам Юрка прыцягнуў ужо "Качку" за штрыфлі і пачаў, сам ня ведаючы наперад, што скажа й што так — і перад кім? — прагаворыцца:**

**— А ты... ведаеш, адкуль я й чаго?**

**— Ну-у? — аж спалохаўся і, так і застаўшыся разьзяўленым, працягнуў "Качка"...**

**І Юрка, не зусім гладка ўжо і зь перапынкамі, зь пераскокамі, проста ў Юшкаву разьзяўленую губу, — як бы той мусіў слухаць і чуць ёй, а не вушыма, выклаў усю праўду аб сваіх учарайшых і сяньняшніх прыгодах.**

**— Ідзі ты! — толькі працягнуў, усё яшчэ ня верачы, "Качка".**

**— То ж бо й то, што няма цяпер куды йсьці, — працадзіў Юрка й змоўк. Абодва нейкі час маўчалі. "Качка", відаць, стараўся пераправіць такую неверагодную, а разам із тым — чаму не праўдападобную? — Юркаву гісторыю.**

**— Дык кажаш, із парашутам — дальбог? — працягнуў ён нарэшце. Юрка толькі моўчкі і ўжо зусім пап'яному целяпнуў галавой. Ізноў маўчалі. Тады "Качка" раптам пачаў ёрзаць на сваім месцы, а далей устаў і ўзяўся за капялюш.**

**— Дык я... тут зараз... нешта капуста пушыць. Ты пачакай гэтта, — ён панёс капялюш да галавы, але, не данёсшы — відаць, раздумаўшыся, паклаў на свой услон. — Хай гэта тут... будзе занята, як хто — скажаш: "Бэзэц!" Я — вомірг! — Юрка зноў целяпнуў галавой, і "Качка", з павялічанай яшчэ больш цяпер амплітудай свае валюхатае хады, паплыў да выйсьця, манэўруючы між п'янымі й яшчэ цьвярозымі.**

**Юрка выпіў яшчэ шклянку, і ці ад яе, ці ад рэзкае кісьліні закускі — пачаў нек ізноў цьверазець. Чорт пацягнуў яго за язык перад гэтым боўдзілам! "Пайшоў даносіць, няйначай, — мільганула ў яго. — Зараз прывядзе гэтых паліцаяў ці так як... Мо заробіць што для свайго магнэсавага "пэрпэтуя". — Ну, і няхай, — ізноў апанавала безуважнасьць, — няхай бяруць, калі так. Пачакаем!" — І ён выпрастаўся на сваім месцы, скіраваўшы пагляд туды, куды адплыў "Качка". Але рука ўсё ж сьціснула, і моцна, дармо, што п'яны — рэвальвэр у кішэні.**

**"... А Вера, кажа, з паліцыянтамі... "Па руках пайшла"... Значыцца, запраўды дрэнь, і ці варта"... — цяжка варочаліся думкі. Але тут жа абураўся сам на сябе за такое думаньне: "Як важысься так, забойца?!" І няхай бы сабе была, хоць бы й з паліцыянтамі гуляла, няхай... А цяпер якраз бы ён, Юрка, шась — і, пэўна, яна тых паліцыянтаў — вон, па баку, адстаўка! Пэўна ж, ён — лепшы... "Лепшы" — забойца...**

**— Дзе ж той "пэрпэтуй", чаму ня йдзе, не вядзе?**

**Ніхто ня йшоў. А мо надарма ўся гэтая трывога? Можа той — проста... Казаў жа — "капуста пушыць"... Ну, і няхай...**

**Юрка зноў нахінуўся над сталом, узлокціўшы цяжкую галаву. Здаецца, пачынала "развозіць", цягнуць на сон...**

**XII.**

**— Выбачайце!...**

**Што, ужо прыйшлі, прывёў? Неслухмяная рука не трапляла адразу ў кішаню па рэвальвэр. Дый навошта? Няхай... Юрка пакінуў гэтыя дарэмныя намаганьні. Дый сьмех — аказалася толькі жанчына, маладая, прыгожая жанчына, уся ў чорным. Уся ў чорным?**

**— Гэтае месца занятае?**

**— Занятае... — Юрка намагаўся ўспомніць тое нямецкае слова, якое сказаў быў тады "Качка", думаючы, што мусіць яго канечна трэба цяпер дадаць.**

**— Ну, але я бачу — капялюш. Але — гэта? — яна паказала на трэйці, вольны ўслон пры тым самым століку, справа ад Юркі.**

**— Гэта? Здаецца, не.**

**Жанчына села, шаснуўшы спадніцаю. Юрка агледзеў яе. Чорныя вочы, чорныя валасы, бездакорна правільныя рысы маладога жаноцкага, напэўна, не дзявоцкага ўжо твару. Вусны падмаляваныя зьлёгку, таксама й бровы. У вопратцы — чорнай (дзе гэта бачыў такую, і сяньня?) — поўная строгасьць. Толькі чаго ёй тут, у гэтай кнайпе? Хіба ж ня з гэтых... з прастытутак. Тыя ж павінны быць размаляваныя, разьвязныя, паўгольныя... А тут жа яны могуць, павінны нават быць. Што ж, можа "незнаёмка" — з таго вершу, што так любіць чытаць Валік, як троху чарку возьме. Якраз там нешта пра чорны шоўк, які шастае. І дзе ён чуў гэтае шастаньне?**

**— Дазвольце аганьку? — зьвярнулася "незнаёмка".**

**Ну, калі курыць — дык напэўна ўжо з "гэтых", яны ж, кажуць, усе кураць. А строгасьць — часам знарок на сябе напушчаюць, каб прынадзіць лягчэй, Юрка чытаў нейдзе гэтак. Але ён, усё ж, як мог, пакавалерску дастаў з кішані сярнічкі, не даючы прыкурыць ад ягонае папяросы, што, праўда, да таго ж і згасла ўжо няма ведама, калі. Жанчына закурыла й кіўнула галавой, дзякуючы.**

**Мабыць, ад суседзтва "незнаёмкі" за адным сталом хмель ізноў пачаў біць у галаву Юрку. Суседка выдавалася што раз больш павабнай і прыгожай. Нават тое, што яна курыць, было ёй неяк асабліва да твару, прыгожа й асабліва ўзбуджала. І Юрка зусім бесцырымонна**

# Годо ня прыйдзе, бо яго няма

*Працяг са старонкі 16.*

Калі палітыкі й грамадзяне навучацца чакаць — у найвышэйшым сэнсе гэтага слова — выказваючы такім чынам пашану да іманэнтнага ладу сьвету, і яго бяздонных таямніцаў, калі яны зразумеюць, што кожная рэч у гэтым сьвеце патрабуе часу і важна ня толькі тое, чаго яны чакаюць ад сьвету, але й веда пра тое, чаго сьвет і гісторыя чакаюць ад іх, тады чалавецтва ня скончыць так кепска, як мы часам сабе ўяўляем.

Спадарыні й спадары,

я прыехаў з краіны, поўнай нецярплівых людзей. Можа нецярплівыя яны таму, што так доўга чакалі Годо і цяпер ім здаецца, што ён нарэшце прыйшоў. Гэта такая самая вялікая памылка, як і іхнае папярэдняе чаканьне. Годо не прыйшоў. І дзякуй Богу, бо калі б прыйшоў, ён быў бы толькі Годо зь летуценьняў, Годо камуністычным. Затое дасьпела, што мусіла дасьпець. Можа б яно дасьпела й раней, калі б мы яго старанна палівалі. Перад намі стаіць цяпер адно заданьне — ператварыць плён гэтага ўраджаю ў новае насеньне і цярпліва яго паліваць.

Калі мы ўмела пасеем і будзем старанна паліваць, дык ня будзе прычынаў для нецярплівасьці. Дастаткова будзе зразумець, што нашае чаканьне не пазбаўлена сэнсу.

Яно мае сэнс, бо вырастае з надзеі, а ня з роспачы, зь веры, а не з адчаю, з пакоры перад часам, які пануе у гэтым сьвеце, а не са страху, — ягоны спакой напоўнены не нудой, а напружаньнем. Такое чаканьне — гэта штосьці большае, чым звычайнае чаканьне.

Гэта жыцьцё, жыцьцё, зразумелае, як радасны ўдзел у цудзе йснаваньня.

Дзякуй спадарству за ўвагу.

*«Kultura», Парыж, 12'1992*

# Навуковец знаходзіць Джойсаву «кнігу сутоньня»

Адзін ірляндзкі навуковец абвесьціў пра знаходку "згубленае" кнігі, якую Джойс напісаў паміж «Улісам» і «Хаўтурамі па Фінэгану».

Дэніш Роўз, які 16 гадоў працаваў над крытычным выданьнем «Хаўтураў па Фінэгану», мяркуе, што Джойс пачаў і кінуў працу над зборнікам апавяданьняў «Гатэль Фіна» у 1923 годзе. Тады ён аддаўся працы над «Хаўтурамі...» і не вяртаўся да гэтае прамежкавае працы аж да 1938 году, калі ўплёў урыўкі зь яе ў свой новы эпічны твор.

Сп. Роўз, які склаў кнігу на 100 старонак, якая, на ягоную думку, як найбліжэй адпавядае рукапіснаму арыгіналу, паведаміў: "Джойс пахаваў абсечаныя часткі схаванае працы ў неабсяжную глебу «Хаўтураў...» Гэты матэрыял ніхто ніколі ня бачыў у гэткай форме й пасьляпоўнасьці, і нават фрагмэнты маглі б пазнаць толькі пару дасьведчаных джойсалёгаў. Адкрыцьцё грунтуецца на аналізе дакумантаў, якія лічыліся дагэтуль падрыхтоўчаю працаю да «Хаўтураў па Фінэгану».

«Гатэль Фіна» выйдзе наступнаю вясною ў выдавецтве «Вікінг», якое заплаціла за гэта "ладную пяцізначную суму". Тэматыка апавяданьняў зьвязаная зь ірляндзкаю міталёгіяй і гісторыяй, ад паданьняў аб Сьвятым Патрыку да аповесьці пра Трышчана й Ізоту. Сп. Роўз цьвердзіць, што адно з апавяданьняў — пра чатырох летапісцаў-ахоўнікаў ірляндзкае гісторыі — "не саступае ранейшаму Джойсаваму апавяданьню «Нябожчыкі», якое лічыцца адным з найдасканалейшых твораў кароткае прозы".

«Гатэль Фіна» напісаны "не густою, амаль непразрыстаю моваю «Хаўтураў...»" ці нават «Уліса». Гэта ясны й выдатна чытальны твор, у нечым паралельны «Дублінцам», але больш унівэрсальны, ён пераходзіць правінцыйныя межы дублінскіх гісторыяў. Гэта «Дублінцы» для ўсяго сьвету". Дагэтуль лічылася, што «Гатэль Фіна» — гэта толькі ранні назоў «Хаўтураў па Фінэгану», а самі апавяданьні — яго фокусныя пункты або "вузлы". Аднак сп. Роўз адзначыў, што гэтыя вузлы былі ўстаўленыя ў новы твор у "зьнявечаным, нязграбным і перакручаным выглядзе" й "тырчаць, як болькі". Кожнае апавяданьне з «Гатэлю Фіна» было адшліфаванае да ўзроўню, які значна перавышае зьнявечаныя фрагмэнты ў «Хаўтурах...». Сам па сабе «Гатэль Фіна» — цулоўны твор, і, пусьціўшы яго на кавалкі для «Хаўтураў...», Джойс "бясспрэчна сапсаваў абедзьве кнігі".

Гэтая кніга адметная яшчэ й тым, што яна пазначае сярэдні пункт паміж «Улісам» і «Хаўтурамі па Фінэгану», які выразна зазначыў новую інтэлектуальную лінію. Сп. Роўз зазначыў: "Паміж "кнігаю дня" — «Улісам» і "кнігаю ночы" — «Хаўтурамі па Фінэгану» ляжыць «Гатэль Фіна» — "кніга сутоньня". Даўшы сьвятло гэтай пераходнай фазе, гэты твор відавочна стаіць асобна ад наступнага. "Нават калі пэрсанажы маюць тыя самыя ймёны, што і ў «Хаўтурах...» — гэта зусім іншыя людзі". Існаваньне гэтае кнігі паўтарае ўзор астатняе творчасьці Джойса — спачатку пішацца большая кніга, а пасьля меншая. Назоў кнігі паходзіць ад гатэлю, дзе працавала будучая Джойсава жонка Нора Барнакл, калі Джойс упершыню яе сустрэў, а адкрыцьцё прасьвятляе выказваньне Джойса ў адным зь лістоў аб тым, што ён назваў сваю новую кнігу ў гонар свае жонкі.

# Адраджэньне мэнкскае мовы

Сёлетні верасень увойдзе ў гісторыю Выспы Мэн — у школах пачалося выкладаньне мэнкскае мовы, карэннае мовы насельнікаў выспы, упершыню пасьля таго, як яна выйшла з ужытку на пачатку гэтага стагодзьдзя. Больш за 1700 вучняў ад сямі да васемнаццаці гадоў выказалі ахвоту мець лекцыі мовы ў дзьвюх школах выспы. Яшчэ 300 вучняў мусяць пачакаць да наступнага году.

Апошні носьбіт мэнкскае мовы памёр каля 20 гадоў таму, і выказвалася трывога, што мова памерла назаўсёды. Адукацыйныя службоўцы былі зьдзіўлены шырокаю ахвотаю адрадзіць мову і распачалі гадавы спробны праект. Напачатку дзеці будуць мець лекцыі мовы на працягу паўгадзіны заняткаў мовы на тыдзень. Як і належыць высьпе, якая ляжыць пасярэдзіне Ірляндзкага мора і, як цьвердзяць, у цэнтры Брытанскіх выспаў, мэнкская мова ўяўляе сабою фанэтычную сумесь шатляндзкае й ірляндзкае моваў, аднак базуецца на ангельскім правапісе зь некаторым валійскім уплывам.

Яна можа прыдацца жыхарам як гаворка незразумелая чужынцам, што вельмі важна на высьпе, ведамай асьцярожнасьцю ў фінансавых справах, а таксама прыхільнасьцю да матацыклаў — gwheeylaght — і плаваньня пад ветразем — shiaulley.

Мэнксцы змогуць даваць адзін аднаму карысныя фінансавыя парады, як, прыкладам ta argid ry gheddyn ass — гэта пахне грашмі, bee argid mooar ass — ідзі й зарабі грошай, або нават, хоць і рэдка — ta my phoggaid follym — у мяне пустая кішэня.

Як ні дзіўна, мова пасьпявае за сучасным жыцьцём. Так, кампутар будзе coearrooder. Клясычны даведнік — ангельска-мэнкскі слоўнік Фаргера улучае нават слова homocheintys — гомасэксуалізм, які быў да нядаўняга часу забаронены на высьпе.

Мэнкская мова была асноўнаю моваю выспы да 1830-х гадоў, але пад канец мінулага стагодзьдзя яна пачала занепадаць зь пераходам на выкладаньне па-ангельску ў школах.

"Вучыць мову захацелі дзьве тысячы вучняў, але я мусіў адпісаць тромстам бацькам, што ім давядзецца пачакаць да наступнага верасьня", - сказаў д-р Браен Стоўэл, службовец Моўнага аддзелу на высьпе.



# Каханы горад

ўзорыўся ў гэтую "незнаёмку", як бы хацеў яе выпіць вачыма, яшчэ больш ахмяліцца ёю. Але тая на яго, як быццам бы, ані зважала, прымружанымі крыху вачыма пільна выглядаючы некага сярод кнайпавае публікі. Каго яна шукае?

Ды раптам чорная "незнаёмка" павярнулася да Юркі і з павабнай ці завабнай усьмешкай, гледзячы проста ў вочы, сказала:

— Дык гэта вы — той парашутысты? Ня бойцеся, я — так званая (яна прыціснула на гэтым слове) жонка гаспадара гэнага дзівацкага капялюша, — яна кіўнула на "Качкаву" аздобу на ўслоне.

Юрка адразу нек нічога не зразумеў. Жанчына моцна зацягнулася папяросай і, нахіліўшыся да Юркі бліжэй, не зьмяняючы тае ж усьмешкі, але цяпер паўшэптам, нейкім пасьпешным і, здавалася, гарачым, пачала яму тлумачыць. Ён мала разумеў і цяпер, больш любуючыся, як разам із словамі выскокваў у яе дым, то гусьцейшы, то зусім далікатнасівенькі, і так доўга, як-бы гэта не ад папяросы, а загарэлася ў яе што ўнутры, і адтуль — гэты дым, і гарачы такі шэпт. Юрка ня бачыў яшчэ ніколі, каб гэтак курылі жанчыны, ды яшчэ — маладыя, такія прыгожыя. І ён куды больш глядзеў на гэтую дымную вопратку словаў, як услухваўся і ўдумваўся ў іхны сэнс. Усё ж, нарэшце і з большага да яго дайшло: "Качка" і запраўды пабег даносіць, а яе, сваю "жонку", прыслаў сюды пілнаваць. Толькі Юрка можа быць зусім спакойным. Адно, што той нікога цяпер ня знойдзе — сьвята, усе такія во, як і тут, а каб і знайшоў, дык нічога ня будзе: ня будуць і слухаць такога, таксама ж п'янога, дый наагул, яны такія ж няпільныя, такія наіўныя і зусім ня цэняць даносаў і даношчыкаў. Ці раз ужо праштырвалі з гэтым і "Качку"... А нарэшце, і галоўнае — на тое й яна тут. Праўда, страшэннай неасьцярогай было зь Юркавага боку зьвярацца з гэтым, хоць сабе й свайму школьнаму сябру, але такому, хай Юрка прабачыць, дурню (апошняе Юрка моўчкі пацьвердзіў, целяпнуўшы галавой). Ейны праўдзівы муж — таксама тут, недалёка, працуе з "нашымі" ў лёсе й таксама нядаўна з парашутам... А гэты так — часовая шырма. Як із мужа — зь яго невялікае што. Садзіць усе грошы на нейкі ідыёцкі вынахад — пэўна ж, хваліўся Юрку? І каб па ім — даўно трэ было б сям'і даццa з голаду. Загрувазьдзіў усю хату дзівацкімі сваймі прычындаламі, мусіла выкінуць іх у хлеўчык. Ды зь ім лёгка даць рады. А яна зараз можа скіраваць Юрку, куды трэба. Не? Значыць, ведае сам... Ён яшчэ пабудзе тут? Толькі ж — асьцярожнасьць, гарэлка — заўсёды благое апраўданьне. Ну, яна яшчэ можа наведацца сюды... — і, згасіўшы аб стол недакурак, бо попелкі не было, жанчына адыйшла з усё тэю ж усьмешкаю й шастаньнем шоўку.

Ага, цяпер Юрку ўспомнілася. Гэта ці не яна прашастала каля яго там, на могілках, абудзіўшы з таго адраньцвеньня? Уся ў чорным, гэта яна. Хто — яна?

У добра п'яной ужо галаве ўсё блыталася. Раптам выйшла нек, што яна — гэта Вера, хоць на самой рэчы між іх ні ў чым не было падабенства. Вера! "Пайшла па руках", з паліцыянтамі, і курыць, як прастыт... Не, але ж якая — яшчэ прыгажэйшая! І няхай бы была, хоць якая, абы была. А так — уся ў чорным... Усё чорнае зацягвае, засьцілае ўсё... нячорнае. І ў дыме чорнай цемры — вогнішча толькі, і Мечык, хлопчык Мечык...

Мечык — меч... Якая дурніна: Мечык — меч, — гэта ж усё — толькі гульня словаў. І толькі сьніцца, трызьніцца. А меч у Юркавых руках — як зігаціць! Не, гэта крыж, той учарашні крыж зігаціць, мяняецца. "Меч і крыж" — здаецца, кіно такое было калісьці...

Але ж, меч і крыж. І зь мячом, зь Мечыкам — гэта ж ён вырас у меч — зь мячом — на каго? На крыж? Не, накрыж... Накрыж яго перачыркнулі. Хто? "Нашыя", пэўна... "Працуе з "нашымі" ў лесе". Хто "нашыя"? "Юзікавы хлопцы"?

А сам "Юзік" — сам Іо-сіф Ві-сары-са... і ў мазгох не пракруціш, яшчэ як п'яны... Юрка ж бачыў яго самога, "вялікага правадыра", а тут ён — як маленькі: "Юзік"... Дый маленькі ж — добра бачыў яго, як быў выпуск іхнае школы. Не, зусім не "вялікі", а малы, касалапы, і твар у восьпінах — адно малююць гэткім прыгажуном. А так — усё няпраўда, усё ў іх няпраўда, ён ведае даўно... "Маняць, як малююць". І мана, няпраўда, што "Сталін": сталь — вось на гэтым мячы. Дык зь ім — на яго, на іх, на "нашых"? А хто ж — "нашыя", дзе "нашыя", дзе "вашыя"? "Нашы вашых падвязуць"...

Як жа зігаціць — меч — аж глядзець баляць вочы... Прыплюшчыць вочы... Прыплюшчаным вокам — нехта глядзіць, пільна глядзіць. Гадэнка — ажыў і глядзіць? Не, гэта Мечык прапушчаў ад вогнішча прыплюшчаным вокам. І гэтая — у чорным — плюшчыла вочы, выглядала кагось у дыме. Вера? "І той пагляд..." Пагляд прыплюшчанага вока... Будзе гэтак глядзець цэлы век, і трэ будзе нешта рабіць, каб заплюшчыць яго, ці засыпаць — пяском. Не, завязаць — чорным, чорныя бываюць павязкі на воку. Уся ў чорным — і яна ад "Юзіка", яны ўсе — чорныя, ад чорных, чорненькія — дробненькія "Юзікі". Чорнае — агністым мячом — расьсячы! А вока ўсё роўна будзе прыплюшчанае век, із тым самым дакорам, вялікае вока, як у кіно, людзкое вока, як у казках... Казкі там, у лесе... "Пуга, торбачка, гразь па калены, адпачынак на балоце, ля вагня"...

Леапольд Стаф

# САМОТНАЯ ВІЛА

*Я даўно прадчуваў гэты цень, што жальбою*

*Лёг на наша каханьне. Згадай, як з табою*

*Мы ўздоўж мура ішлі, з-за якога сьвяціла*

*Сваёй бельлю, у квецені тонучы, віла,*

*Апавітая пахам і цішай глыбокай.*

*На нябёсах ружовыя гасьлі аблокі,*

*Зьмярк блакітны гусьцеў, напаўняў нас журботай.*

*Сталі мы каля кратаў сьцямнелых варотаў*

*І ў маўчаньні занурылі нашы пагляды*

*У глыбокі паўзмрок таямнічага саду,*

*У якім закаханым прызначана прасьці*

*У вабдымках пяшчоты бясхмарнае шчасьце.*

*Мы ўзіраліся ў сад і здалося нам, быццам*

*Ён чакаў тых, хто прагнуў у цішы забыцца,*

*І быў спратам, якога нам так не ставала.*

*Браму пхнула міжволі рука і... апала.*

*На замку была брама. І ты пабляднела,*

*Бо, відаць, як і я, у той міг зразумела:*

*Той паваленьі помнік Гермэса за брамай,*

*Што ясьнеў у сутоньні бялюткаю плямай*

*На зялёным ядвабе травы, як груд сьнегу —*

*Быў пасланцам каханьня й лагоды, што ў бегу*

*Браму у сад нам хацеў расчыніць, ды ня здужаў,*

*Паваліўся ў траву быццам сьцятая ружа*

*І пакінуў дваіх нас, тугой ахінутых,*

*Перад брамаю сьветлага шчасьця — замкнутай.*

Пеаклаў з польскай А.М.



Малюнак Д.Р.

Нехта моцна трос за плячо. Кнайпа пустая ўжо, толькі дым, і дым у галаве, у душы, халодны дым. Ага, трэба ўжо зачыняць? Плаціць? Калі ласка, калі ла-асачка, колькі хочаце, ня лічачы навет. А шапка, дзе шапка? Не было ж шапкі, праўда. Быў дзівацкі капялюш — Юшкаў, "Качкаў", з загнутым пяром адзадзя. Дзе ж ён? І яго ўжо няма. А так бы ёмка цяпер зафутболіць у той вунь кут — капялюш. І Юшку — па капялюшыку — заюшыць. Што, данёс? "Качка" — толькі гадкія "качкі" пушчаць. "Беларусь", "зь Беларусі", "для Беларусі". Для Веры. У што веры? Няма Веры, няма веры, а Беларусь ёсьць, ёсьць Мечык...

Што? Ужо, ужо...

Цяжкімі, неслухмянымі нагамі выбраўся Юрка з кнайпы. Нехта памагаў? Дурніна, с-сам.

Вясьняны цёплы брызок далікатна пырскаў на твар. А як жа цёмна, чорна-цёмна, ані ясачкі...

Перастаўляў ногі, кіруючыся намаҥы, праз тую чорную цемру — да нейкага вогнішча, хоць ніякага не было нідзе. Кіравала, усплыўшы, зноў тое: "Пуга, торбачка, гразь па калены, адначынак на балоце, ля вагня"...

XIII.

На Юрку яшчэ доўга чакалі на лётавішчы, хоць ужо ясна было: ня вернецца... Не вярнуўся ж тамбоўскі герой Жарабцоў, і сябры зь ягонага зьвязу самі бачылі, як, загарэўшыся, кулём рынула далоў ягоная падстрэленая машына. Гэтак загінулі два найбольшыя рызыканты эскадрыльлі. Не далічыліся й яшчэ сяго-таго, двух не зьвярнулася з паветранага бою, да якога яны былі змушаныя варагавымі зьнішчальнікамі, што перанялі іх па дарозе назад. Хоць, праўда, і згаджаліся ўсе, што налёты былі нечпадзяванымі для ворага, і абарона ўсюды ўваходзіла ў справу не адразу, "праспаўшы", але ўсё ж гэтая абарона была, і "пэўныя весткі", што яе быццам няма, толькі абуралі ўсіх.

На Юрку чакалі даўжэй за ўсіх, бо ніхто ня бачыў ягонае катастрофы. Праўда, Віктар ужо пад канец чуў страшэнныя выбухі, гул ад якіх проста зьліваўся — можа, Юрка "сеў на свае"? Але гэта як бы было не ў ягоным баку... Валік здагадваўся добра аб запраўднай прычыне чутага Віктарам, ды, пэўна ж, маўчаў...

Усё ж адправу па ахвярах, дзеля пэўнасьці, пастанавілі зрабіць па сьвяце — мо яшчэ й вернецца хто "пехатой на самалёце", як любіў казаць Юрка.

Настрой у бальшыні "сакалоў" ад усяго гэтага быў ня вельмі, каб "сакаліны". Толькі якраз першы зьвяз, Юркавы сябры, дармо, што й безь яго, а пачувалі сябе няблага. Віктар, бядуючы дзеля прыліку па такой цяжкой для зьвязу страце, як бясстрашны, запраўдны пілёт (цяпер ужо, а раней — рызыкант, навет хуліган) Юрка, душою быў у падвойным задавальненьні: Юрка скруціўся яшчэ барджджэй і раней, як ён спадзяваўся. Адзін ужо напэўна систупіў зь ягонае дарогі. Але й гэты другі нейкі падазрона-спакойны, усьміхасцца нейкай летуценнай, нябёснай усьмешкай, як сьвяты. Ці ня Веру пабачыў мо з высакосьці? Не, мусіць, проста рады, што абмінуў шчасьліва "знаёмы дом". Але як канкрэтна (Віктар дужа любіў гэтае слова, як любяць яго ўсе тыя, што запраўды "канкрэтна" ні гавараць, ні рабіць ня звыклі)? Ня можа быць, каб выйшаў сухім із вады. Гэны гук — якраз у ягоным баку, не, гэта ня Юрка, а мусіць, што гэты "аблягчыўся". Трэ будзе, канечна трэба "прамацаць".

Валік і праўда быў у спакойным, бадай радасным навет настроі. Пэўна, шкада было Юркі й нават Жарабцова, але затое была поўная — мо эгаістычная? — задаволенасьць сабой, што сам выйшаў чыстым і перад "каханым горадам" і пераю Ёю. Ці адчувала яна тады, што ён тут, зусім блізка быў, думаў аб ёй і зрабіў усё, каб абмінула яе тая навала?.. І яшчэ крыху нядобра — трэба хавацца з гэтым усім, як злодзею. І што Віктар чуў, пэўна ж, як ён "згружаў" у балота, хоць і ня ведае праўды — таксама не зусім добра... Але ўсё гэта дармо, спачатку толькі трэ будзе крыху патрымацца. Галоўнае — каб не чырванець, гэтым можна зрадзіць сябе, хоць і тое, зрэшты, праўда, — усе прывыклі, што ён чырванее заўсёды. А там абляжацца ўсё, забудзецца, і будзе ўсё добра. Гэта ж не з благой, злой справай хавацца трэба, а з добрай якраз, — толькі ў іх заўсёды добрае перакручваецца благім і злачынным, і наадварот...

Начны халадок крыху праймаў на лётавішчы, але й гэта нек прыемна вязалася з тым, што пачуў і адчуў там:

*Мае босенькія ножкі,*

*Сьцюдзёна стаяць...*

І да Віктара нат не было цяпер жалю, як перад стартам. Можа нават і лепш, што ён Валіку тую "сьвіньню падлажыў". Будзь у тым раёне які Юрка — мала чаго нарабіць мог із сваім дурным рызыканцтвам — вось жа няма й дагэтуль. І калі Віктар запрапанаваў пачакаць яшчэ крыху ў чырвоным кутку, у будынку "дыжуркі", бо на дварэ ўжо крыху зябка — Валік ахвоча згадзіўся, не падазраючы нічога благога й не спадзяваючыся цяпер новае "сьвіньні" ад Віктара.

— Так вось і няма нашага Юрачкі, нашае Галушачкі, — пачаў ізноў бедаваць Віктар, але выходзіла гэта ў яго так штучна, асабліва ў гэтых зьмяншальна-ласкальных, што Валіка ўсяго аж пакарэжыла неяк. — Ды мне ўсё здаецца — завітае яшчэ вось-вось сакалок, — хлусіў Віктар далей, будучы сам у душы цьвёрда-пэўным у зусім адваротным, прынамся, хочучы быць пэўным.

— Баюся, што ўжо не, такі рызыкант, пэўна загінуў...

— Бадай, маеш рацыю што да рызыканцтва. Зусім што іншае тут — чыстая работа! — пачынаў адразу, сваім

# ТАЕМНЫ ЦУД

## Хорхэ Луіс Борхэс

І Бог зьмярцьвіў яго на сто гадоў,
пасьля ўваскрасіў яго й спытаўся:
— Колькі часу ты прабыў тут?
— Адзін дзень або частку дня, —
адказаў ён.

*Каран, II, 261*

Ноччу чатырнаццатага сакавіка 1939 году, у кватэры на Цэльтнэргасэ ў Празе, Ярамір Гладзік, аўтар няскончанае трагедыі *Ворагі*, працы *Абарона вечнасьці* й дасьледаваньня пра ўскосныя юдэйскія крыніцы Якаба Бёма, сьніў доўгую шахматную партыю. Гулялі ня два чалавекі, а два славутыя роды; партыя пачалася шмат стагодзьдзяў таму; ніхто ня быў у стане назваць забыты памер выйгрышу, але хадзілі чуткі, што ён невераґодна вялікі, можа нават незьлічоны; фігуры й дошка захоўваліся ў сакрэтнай вежы; Ярамір (у сьне) быў старэйшым сынам у адным з двух варожых радоў; гадзіньнікі білі гадзіну неадкладнага ходу; ён сьніў, што бяжыць праз пяскі ў дажджлівай пустэльні й ня можа згадаць ні фігуры, ні правілы гульні. У гэтую хвіліну ён прачнуўся. Сьціх шолах дажджу й звон жахлівых гадзіньнікаў. Мерны аднастайны гул, перарываны крыкамі вайсковых камандаў, уздымаўся з Цэльтнэргасэ. Бралася на дзень; танкавыя авангарды Трэцяга Райху ўваходзілі ў Прагу.

Дзевятнаццатага ўлады атрымалі данос; у той самы дзень надвячоркам Ярамір Гладзік быў арыштаваны. Яго завялі ў белы дэзынфэктаваны барак на другім беразе Молдаў. Ён ня мог запярэчыць ніводнаму абвінавачаньню Гестапа: матчынае прозьвішча было Яраслаўскі, ён меў жыдоўскую кроў, ён дасьледаваў Бёмэ зь юдаісцкага гледзішча, ягоны подпіс стаяў у канчатковым сьпісе пратэсту супраць Аншлюсу. У 1928 годзе ён пераклаў *Сэфэр Ецыра* для выдавецтва Хэрман Барсдорф; у шчодрым каталёзе гэтага выдавецтва імя перакладчыка было перахваленае дзеля рэклямы; гэты каталёг гартаў Юліус Ротэ, адзін з начальнікаў, у чыіх руках быў цяпер Гладзікаў лёс. Няма чалавека, які б па-за рамкамі свае спэцыяльнасьці ня быў даверлівы: двух-трох прыметнікаў, выдрукаваных гатычнымі літарамі, хапіла, каб Юліус Ротэ прызнаў Гладзікаву кампэтэнтнасьць і распарадзіўся, каб яго прысудзілі да сьмерці, *pour encourager les autres*. Ён прызначыў дзень дваццаць дзевятага сакавіка, а дзевятай гадзіне раніцы. Гэты адклад (важнасьць якога чытач ацэніць пасьля) меў прычынаю адміністрацыйнае імкненьне дзеяць безасабова й нясьпешна, як расьліны й плянэты.



Першым Гладзікавым пачуцьцём быў звычайны страх. Ён падумаў, што яго б не спалохала ні шыбеніца, ні сякера ката, ні гільятына, але думка пра расстрэл была яму нясьцерпная. Марна ён паўтараў сабе, што страшны ўвогуле сам акт сьмерці, а не канкрэтныя абставіны. Ён не пераставаў уяўляць сабе тыя абставіны: недарэчна стараўся перабраць усе варыянты. Ён бясконца прачуваў у думках увесь працэс, ад бяссоннага сьвітанку да патаемнага стрэлу. Да прызначанага Юліусам Ротэ дня ён памёр ужо сотню разоў, у дворыках, форма й абрысы якіх спрачаліся з геамэтрыяй, расстрэльваны кожны раз новымі жаўнерамі, колькасьць якіх мянялася, часам яны канчалі яго здалёк; часам — зусім зблізу. Ён сустракаў гэтыя ўяўныя экзэкуцыі з сапраўдным страхам (ці, можа, з сапраўднай мужнасьцю); кожны відзеж цягнуўся колькі сэкундаў; замкнуўшы кола, Ярамір бясконца вяртаўся ў дрыготкі пярэдадзень сваёй сьмерці. Пасьля, разважыўшы, ён падумаў, што рэальнасьць звычайна не супадае з прадбачаньнем; паводле перакручанае лёгікі ён зрабіў выснову, што, прадбачыўшы нейкую дэталь акалічнасьцяў, можна такім чынам ня даць ёй адбыцца ў рэальнасьці. Зачараваны гэтаю хвораю магіяй, ён прыдумляў розныя жахлівыя падрабязнасьці, *каб яны не адбыліся*; натуральна, урэшце ён пачаў баяцца, каб гэтыя фантазіі ня сталіся прарочымі. Уначы, прыгнечаны бядою, ён усяляк стараўся перакanaць сябе ў прамінальнай сутнасьці часу. Ведаючы, што час няўмольна наближаецца да сьвітаньня дваццаць дзевятага дня, ён разважаў уголас: *Цяпер ноч на дваццаць другое; пакуль будзе цягнуцца гэтая ноч (і яшчэ шэсьць начэй) я непаразны, неўміручы.* Ён уяўляў сабе гэтыя ночы забыцьця як глыбокія й цёмныя купальні, куды ён мог акунуцца. Часам ён нецярпліва прагнуў апошняга стрэлу, які б вызваліў яго, што б ні было, ад марных уяўленьняў. Дваццаць восьмага, калі апошнія промні заходу адбіліся ў высокіх закратаваных вокнах, гэтыя нягодныя развагі перапыніў вобраз ягонае драмы *Ворагі*.

Гладзіку было за сорак гадоў. Апроч некалькіх знаёмстваў і шматлікіх звычак, жыцьцё ягонае складаў сумлеўны літаратурны занятак; як кожны пісьменьнік, ён ацэньваў якасьці іншых паводле таго, што яны зрабілі, патрабуючы ўзамен, каб яго ацэньвалі паводле таго, што ён няясна сабе ўяўляў або задумваў зрабіць. Усе кнігі, якія ён дагэтуль надрукаваў, выклікалі ў яго складанае пачуцьцё незадаволенасьці. Яго дасьледаваньні творчасьці Бёмэ, Ібн-Эзры й Флада былі збольшага плёнам простай стараннасьці; у ягоным перакладзе *Сэфэр Ецыра* выявілася няўважлівасьць, стома й недакладнасьць. Толькі *Абарону вечнасьці* ён лічыў больш удалай працай: у першым томе разглядаюцца розныя мадэлі вечнасьці, уяўленыя людзьмі, ад нерухомага Пармэнідавага Быцьця да зьменлівае мінуўшчыны Хінтана; у другім томе аўтар (разам з Фрэнсысам Брэдлі) адмаўляе, што ўсе факты сусьвету складаюць адзіны часавы рад. Ён высноўвае, што

## Каханы горад

заўсёдным "самасуйскім" звычаем, хваліць сам сябе Віктар. — Штаб — наша школа — адразу, не здрыгануўшыся, трапнымі лучаньнямі — да ўсіх чартоў сабачых! Чыгуначнае дэпо — хто зруйнаваў? Больніца — паводля вестак, зь іхнымі раненымі — уся, як сьвечка!

"Паводля вестак" — "пэўныя весткі", — падумаў Валік і жахнуўся: раненыя як раненыя, але ж у гэтай больніцы за старажыху была й тут жа жыла Віктарава маці... Вось дзе сапраўдная "бальшавіцкая бязжаласнасьць", бязьлітасная драўлянасьць — ня дзіва, што й Валіка туды, дзе бацькі, пасылаў — якая тут "сьвіньня"...

— А як нашыя ўдачы, Валечка? — цягнуў далей, відаць, аж надта гэтым разам задаволены сабой Віктар, у знак асаблівай пяшчоты паклаўшы руку Валіку на калена. — Праўда, у цябе не было паважных аб'ектаў... Вось ты зразу скуксіўся быў на мяне, кусьліва дзякаваў "за давер". А падумай цяпер сам — не даваць жа было мне гэтаму, кажаш сам, рызыканту Юрку, і ня браць на сябе — бачыш, які я... ("драўляны", — падумаў ізноў Валік), — нічога не пашкадаваў... і я, праўда, знарок, сьведама даручыў табе той раён, дзе наша Вера, — ён прыціснуў на слове "наша", і Валіку гэта здалося асабліва прыкрым, — ведаючы, што ты будзеш шанаваць, як вока... Я нат сказаў гэта Юрку — можаш спытацца ў яго, калі вернецца можа. Так што і быў давер, без усякае гэтае тваё гіроніі, найбольшы давер. Ну, а што й бацькі твае ў гэтым самым раёне — гэта ўжо трудна... Пэўна ж, добра й з гэтым абылося?

— Ня ведаю, як там... — выкруціўся Валік, пачуваючы, што ўжо чырванее пад аляістым, ды ўсё ж мёртва-драўляным паглядам круглых Віктаравых вачэй.

— Ну, што там — "ня ведаю"! Папраўдзе кажучы, каб я быў на тваім месцы... Аб'ектаў жа там не было, значыцца, задача адна: дэманстрацыя магутнасьці. І калі, адлятаючы ўжо, я пачуў той гук — а быў ён якраз із твайго, з твайго, — падчыркнуў ён аж двойчы, — боку, і я ня мог яшчэ аніяк гадаць, што мо гэта гіне бедны наш Юрачка (шчасьце, каб гэта было ня так) — дык тут жа падумаў: гэта, мусіць, маніфэстуе "наша Валя", і няблага маніфэстуе... Дык як?

— Так... — ціха, неазначана яшчэ, але разам із тым неяк прыбіта, адказаў Валік, выразна пачуўшы сябе ўжо злоўленым. Ён ня мог больш адарвацца ад гэтых, як пугачовых нейкіх, вачэй — не схавацца ад іх, усё бачаць, як пачулі й гэтыя гадкія, адторклыя вушы той гук...

— У руіны пакідаў, ці ў рэчку, ці так? — не даючы адхланьня, біў далей у тую саму кропку і ўжо дабіваў Віктар...

— Так... — ізноў гэтаксама, ды яшчэ цішэй, азваўся Валік, адчуваючы, як сапраўды нек пачынае таяць, бы тая самая сьнягурка. Хоць ізноў маўчалі крыху, але добра ведаў ужо Валік — ня зьвернуць кірунку гаворкі гэтыя моўчкі, трэба будзе нешта сказаць, і мусіць...

— Куды? — рантам грозна крыкнуў, моцна стукнуўшы кулаком па стале, Віктар. Аляістасьць зьнікла ў мамэнт із вачэй, засталася зноў адна драўлянасьць, мёртвая ўжо зусім і бязжаласная, "бальшавіцка" бязжаласная. І Віктар добра разьлічыў гэты свой рэзкі зварот у гаворцы, ад якога іншы хто, вытрыманы ці спрактыкаваны "злачынец", лёгка мог перайсьці якраз у контратаку, у вабурэньне. Іншы хто, толькі ня Валік, у якога адразу ціха, быццам само, як выпала:

— У балота...

— Усё?

— Усё...

Ізноў змоўклі, і цяпер ужо маўчалі даўжэй. Віктар мусіў перажыць, не паказваючы, радасьць ад гэтае свае, і другое, і падвойнае зноў удачы: і так лёгка зыходзіў з дарогі другі — зусім, зусім бадай так, як было спадзявана (Віктар навет падумаў: "уплянавана"), і так лёгка, яшчэ лягчэй выкрыць яго ўдалося. І яму можна, нат трэба даць пярэдых — усёдна, дзе дзенецца цяпер?

— Так, — абарвала нарэшце маўчанку, ды ўжо ня Валікава ціхое-нязначнае, а станоўка мёртвае Віктарава "так", як кропка, як пункт над усім. — Спадзяюся, што заўтра прачытаю аб гэтым усім падрабязна ў вадмысловым дакладзе, та-

колькасьць усіх магчымых праяваў чалавечага досьведу не бясконцая й што дастаткова толькі аднаго "паўтарэньня", каб давесьці, што час — гэта мана... На жаль, ня менш зманлівыя й доказы гэтае маны; Гладзік звычайна разглядаў іх з упэўнена-пагардлівай разгубленасьцю. Ён таксама напісаў цыкль экспрэсіяністычных вершаў; яны, на сорам паэту, былі зьмешчаныя ў адной анталёгіі 1924 году, і не было ніводнае пазьнейшае анталёгіі, якая б іх не перадрукавала. З усёй гэтай сумлеўнаю й гнятлівою мінуўшчынай Гладзік хацеў разьлічыцца вершаванаю драмай *Ворагі*. (Ён быў прыхільнікам паэтычнае формы, бо яна не дае гледачам забыцца пра нерэальнасьць, што ёсьць умоваю мастацтва.)

Драма захоўвала адзінства часу, месца й дзеяньня; дзея адбывалася ў Градчанах, у бібліятэцы барона Ромэрштадта, у адзін з апошніх вечароў дзевятнаццатага стагодзьдзя. У першай сцэне першага акту Ромэрштадта наведвае невядомы. (Гадзіньнік б'е сем гадзінаў, пажар апошніх сонечных промняў дагарае ў шыбах, вецер даносіць палымяную й знаёмую мадзярскую музыку.) За гэтым наведнікам прыходзяць іншыя; Ромэрштадт ня ведае людзей, што прыйшлі неспадзеўна, але яму назалае непрыемная думка, што ён іх ужо бачыў, магчыма ў сьне. Усе праз'мерна пачціvыя й ласкавыя да яго, але зразумела — спачатку гледачам драмы, пасьля самому барону — што гэта яго патаемныя ворагі, якія змовіліся яго загубіць. Ромэрштадту ўдаецца прыпыніць ці абыйсьці іх заблытаныя інтрыгі; у дыялёгу яны згадваюць Юлію фон Вайдэнаў, яго нявесту, і нейкага Ярослава Кубіна, які некалі дакучаў ёй сваім каханьнем. Гэты апошні звар'яцеў і цяпер лічыць сябе Ромэрштадтам... Небясьпека расьце; на канцы другога акту Ромэрштадт вымушаны забіць аднаго змоўніка. Пачынаецца трэці акт, апошні. Паступова большацца супярэчнасьці: вяртаюцца пэрсанажы, якія, здавалася, ужо выпалі зь сюжэту; вяртаецца на нейкі момант чалавек, забіты Ромэрштадтам. Нехта зазначае, што яшчэ так і не зьвечарэла: гадзіньнік б'е сем гадзінаў, у высокіх шыбах дагарае заходняе сонца, вецер даносіць палымяную мадзярскую музыку. Зьяўляецца першы госьць і паўтарае словы, якія ён вымавіў у першай сцэне першага акту. Ромэрштадт гаворыць зь ім, нічога не заўважыўшы; глядач разумее, што Ромэрштадт і ёсьць няшчасны Яраслаў Кубін. Драма не адбылася: гэта замкнёнае трызьненьне, якое зноў і зноў перажывае Кубін.

Гладзік ніколі не задумляўся, ці гэтая трагікамэдыя памылак нікчэмная або выдатная, глыбокая або павярхоўная. У накідзе сюжэту, які я тут падаў, ён ужыў усю сваю вынаходлівасьць каб прыхаваць свае недахопы й разьвіць посьпехі, каб магчы аднавіць (сымбалічным чынам) асноўны сэнс свайго жыцьця. Ён скончыў ужо першы акт і некалькі сцэнаў трэцяга; мэтрычны характар твора дазваляў выпраўляць яго няспынна, выпраўляючы гэкзамэтры, бяз рукапісу пад рукою. Ён падумаў, што яму бракуе яшчэ двух актаў і што вельмі хутка ён памрэ. У цемры ён гаварыў з Богам. *Калі я нейкім чынам існую, калі я не адна з тваіх памылак і паўтарэньняў, я існую як аўтар* Ворагаў. *Каб скончыць гэтую драму, якая можа апраўдаць мяне й Цябе, мне патрэбны яшчэ адзін год. Пазыч мне гэты год, Ты, каму належаць стагодзьдзі й сам час.* Была апошняя ноч, самая страшная, але праз дзесяць хвілін сон паглынуў яго, як цёмныя воды.

Пад раніцу ён прысьніў, што схаваўся ў адной з заляў бібліятэкі Клемэнтынум. Бібліятэкар у чорных акулярах спытаўся ў яго: *Што вы шукаеце?* Гладзік адказаў яму: *Я шукаю Бога.* Бібліятэкар сказаў яму: *Бог у адной зь літараў на адной з старонак аднаго з чатырохсот тысячаў тамоў Клемэнтынума. Мае бацькі й бацькі маіх бацькаў шукалі гэтую літару; я асьлепнуў, шукаючы яе.* Ён зьняў акуляры, і Гладзік убачыў зьмярцьвелыя вочы. Зайшоў чытач, каб вярнуць атляс. *Гэты атляс непатрэбны*, сказаў ён і аддаў яго Гладзіку. Гладзік разгарнуў яго ў адвольным месцы. Убачыў мапу Індыі, і яму закружылася ў галаве. Адчуўшы раптам нейкую пэўнасьць, ён дакрануўся да адной з драбнюткіх літарак. Усюдысны голас сказаў яму: *Табе пазычаны час на тваю працу.* У гэты момант Гладзік прачнуўся.

Ён прыгадаў, што чалавечыя сны належаць Богу й што Майманід напісаў, што словы ў сьне Божыя, калі яны выразныя й зразумелыя і калі немагчыма ўбачыць таго, хто гаворыць. Ён апрануўся; у камэру зайшлі два жаўнеры й загадалі яму йсьці за імі.

Па той бок дзьвярэй Гладзік уяўляў сабе цэлы лябірынт галерэяў, лесьвіцаў і камэраў. Рэальнасьць была не такая багатая: яны спусьціліся ў двор па адзінай жалезнай лесьвіцы. Некалькі жаўнераў — некаторыя ў расшпіленых мундурах — разглядалі матацыкал і пра нешта спрачаліся. Сяржант паглядзеў на гадзіньнік: было восем гадзін сорак чатыры хвіліны. Трэба было чакаць дзевятае гадзіны. Гладзік, больш незаўважны, чым няшчасны, сеў на кучу дроваў. Ён пабачыў, што жаўнеры стараюцца не глядзець яму ў вочы. Каб палегчыць чаканьне, сяржант даў яму цыгарэту. Гладзік не курыў; узяў цыгарэту дзеля ветлівасьці або дзеля пакоры. Запальваючы, убачыў, што ў яго дрыжаць рукі. Дзень быў хмарны; жаўнеры гаварылі ціха, быццам ён быў ужо мёртвы. Марна спрабаваў ён прыпомніць сабе жанчыну, вобразам якое была Юлія фон Вайдэнаў...

Жаўнеры сшыхтаваліся й сталі на зважай. Гладзік, стоячы пад сьцяною барака, чакаў стрэлу. Нехта пабаяўся, што сьцяна запэцкаецца крывёю; тады злачынцу загадалі адыйсьці на пару крокаў. Гладзіку недарэчна прыгадалася мітусьня фатографа перад здымкаю. Цяжкая кропля дажджу ўпала яму на скроню й павольна папаўзла па шчацэ; сяржант выкрыкнуў апошні загад.

Фізычны сьвет спыніўся.

Стрэльбы былі скіраваныя на Гладзіка, але людзі, што меліся яго забіць, не варушыліся. Рука сяржанта зьнерухомела ў няскончаным маху. На адной з плітак, якімі быў выкладзены двор, замёр пчаліны цень. Вецер сьціх, як на карціне. Гладзік паспрабаваў крыкнуць, вымавіць слова, паварушыць рукой. Ён зразумеў, што быў спаралізаваны. Да яго не даходзіў ніводзін гук зьнерухомленага сьвету. Ён падумаў *я ў пекле, я мёртвы.* Ён падумаў *я звар'яцеў.* Ён падумаў *час спыніўся.* Пасьля, разважыўшы, ён зразумеў, што ў такім выпадку спыніліся б і ягоныя думкі. Ён захацеў праверыць гэта: паўгарыў (не варушачы вуснамі) таямнічую чацьвертую эклёгу Вэргілія. Яму падалося, што жаўнеры, ужо даўно забытыя, падзяляюць ягоную трывогу; ён захацеў падаць ім хоць які знак. Яго зьдзівіла, што ён не адчувае ніякае стомы або здраньцьвеньня ад доўгае нерухомасьці. Праз нейкі час ён заснуў. Калі прачнуўся, сьвет навокал быў нерухомы й глухі. На шчацэ заставалася кропля вады; у двары на плітцы — пчаліны цень, дым ад кінутай цыгарэты так і не разьвеяўся. Мінуў яшчэ адзін "дзень", перш чым Гладзік зразумеў.

Цэлы год папрасіў ён у Бога, каб скончыць сваю працу: і Ягоная ўсемагутнасьць пазычыла яму гэты год. Бог учыніў дзеля яго таемны цуд: нямецкая куля заб'е яго ў прызначаны час, але ў ягоных думках час паміж загадам і выкананьнем загаду працягнецца цэлы год. Гладзікава разгубленасьць зьмянілася зьдзіўленьнем, зьдзіўленьне — пакораю, а пакора — раптоўнаю ўдзячнасьцю.

Ня маючы ніякіх запісаў, ён мог спадзявацца толькі на сваю памяць; завучваньне кожнага новага гэкзамэтру дадавала яму неабходнае дакладнасьці выказваньня, пра якую не падазраюць тыя, хто сьпехам складае й губляе ў памяці кволыя й невыразныя радкі. Ён працаваў не дзеля нашчадкаў і нават не дзеля Бога, пра чые літаратурныя густы ён ведаў мала. Старанна, нерухома, тасмна высноўваў ён у часе свой дасканалы нябачны лябірынт. Ён двойчы перарабляў трэці акт. Давялося скасаваць некаторыя залішне відавочныя сымбалі: паўтараны бой гадзіньніка, музыку. Ніякія абставіны яго не турбавалі. Ён выкідаў, скарачаў, пашыраў; часам вяртаўся да першапачатковага варыянту. Урэшце ён палюбіў двор, барак; адзін з твараў, што ён бачыў перад сабою, паўплываў на зьмену канцэпцыі характару Ромэрштадта. Ён адкрыў, што заблытаныя какафоніі, якія так непакоілі Флёбэра, гэта ўсяго толькі зрокавыя забабоны: слабасьці й недахопы слова напісанага, а не слова прамоўленага... Ён скончыў сваю драму: заставалася знайсьці толькі адзін эпітэт. І ён знайшоў яго; кропля вады пакацілася па шчацэ. З грудзей вырваўся нялюдзкі крык, ён зварухнуўся, чацьвярны стрэл зваліў яго з ног.

Ярамір Гладзік памёр дваццаць дзевятага сакавіка, у дзевяць гадзінаў дзьве хвіліны раніцы.

*1943.*

**Пераклаў з гішпанскае Х.Зар.**

---

**варыш Сьнягурскі, — якія матывы й гэтак далей...**

**Валік маўчаў. Гэны рэзкі зварот, на які так папаўся адразу, гэты тон і "таварыш Сьнягурскі" — гаварылі ўсё. І як подла падвёў! А ён баяўся толькі, каб не пачырванець, а на большае й ня ўздумаў... Не, не яму было спадзявацца на свае сілы ў такой гульні... Ды што? усёдна — як іначай было? Толькі дарма сам ашукваў сябе тым спакоем... Хоць і тут — ці шкадаваць? Нечага, меней сябе пагрыз, а крыху адпачыў...**

**— І Вы ж ( — так, і "Вы" цяпер на месцы зусім, як і "таварыш Сьнягурскі"), і Вы, — цягнуў Віктар, не дачакаўшыся адказу, — добра ўсьведамлялі сабе й павінны ўсьведамляць цяпер, што так груба "выкарысталі", груба-супрацьзаконна права "аблягчэньня" ў крытычным выпадку, калі такога выпадку зусім не было. І да чаго можа павесьці такое "выкананьне заданьня", такая інтэлігенцкая маладушнасьць, такая...**

**Што? Валік яшчэ не зразумеў, хоць увесь ход быў такі лягічны. Няўжо, хіба — яшчэ большая подласьць?**

**— Ты ж сам, Віктар, кагадзе казаў, што каб быў на маім месцы... абы — дэманстрацыя... — нек ні то просячы, ні то спадзяючыся яшчэ, што ня так зразумеў, што жарт можа ўсё, што ня будзе ж так подла падводзіць — прыкра-жаласьліва аж для самога сябе, як не выенчыў Валік.**

**— Так, казаў "каб" і казаў "на тваім", але ж сам — сам што зрабіў, бяз "каб", на сваім месцы? Нішто сабе "дэманстрацыя" — груз бомбаў, дэфіцытны, каштоўны матар'ял, сьмерць сотняў ворагаў, народныя, працоўныя грошы — у балота? — аж да патасу пачаў ужо ўзносіцца Віктар.**

**"Падлюга!" — раптам устаўшы, хацеў крыкнуць яму, ды ня мог ад раптоўнае навалы агіды Валік. І адразу ж астыг: на сябе, на сябе толькі трэ абурацца было, як мог думаць іначай, нават нейкія добрыя намеры ў "сьмярдзюху" гэтым дапушчаць. Не, вон адсюль, на чыстае паветра — барджджэй!**

**— Справа паважная, — пераходзячы тымчасам ізноў на разважна-навучальны тон цягнуў Віктар, — вельмі, вельмі паважная, але пры шчырым тваім прызнаньні, хоць і ведаеш сам абставіны часу, — можа й возьмецца што на ўвагу... Хочаш ужо йсьці?**

**З радыё-дыжуркі раптам прыўшчыніліся дзьверы.**

**— Слухайце, хлопцы, улучаю! — вясёла гукнуў дыжурны радысты, разанец Бліноў, якога Юрка "перайменаваў" быў у "Бліндаж", бо бліны, казаў, цяперашнім ваенным часам — страва не сэзонная.**

**Віктар кінуўся да радыё-рэпрадуктара, які стаяў на століку ў кутку і пачаў услухоўвацца. О, як прагавіта ўчуваюцца ўва ўсё і як войстра чуюць зусюль гэтыя подлыя, адторклыя вушы!**

**— ... на ворагавыя аэрадромы, чыгуначныя вузлы, зграмаджаньні войскаў і ваенных матар'ялаў. Напярэдадні сьвята працоўных яшчэ раз прадэманстраваная была баёвая магутнасьць сталінскай авіяцыі. Усе машыны зьвярнуліся на свае базы...**

**— Гэта — пра нас, — самаздаволена ўсьміхаючыся, сказаў Віктар.**

**— Пра нас? — адарваны ад свае бяды больш Віктаравай заўвагай, як самым радыёпаведамленьнем, зьдзіўлена перапытаў Валік. — Як жа гэта — "усе зьвярнуліся"? А Юрка, Жарабцоў? А якія "аэрадромы, вузлы, зграмаджаньні"? Бальніца, найвышэй — штаб...**

**— І балота? — прыкусьліва закончыў Віктар. — Бясспрэчна, пра нас. Ня ўсё тое кажацца, што робіцца, і ня ўсё тое робіцца, што кажацца...**

**— Гэта ж хлусьня, Віктар, ашуканства!**

**— Не хлусьня, а палітыка. І правільная палітыка, разьлічаная на карысьць нашага народу, а можа й на сусьветную грамадзкую думку, на думку нашых хаўрусьнікаў. Хлусьня, ашуканства было б сказаць гэтак у справаздачы свайму камандаваньню, зрабіўшы аэрадром з балота... Ашуканства для бальшавіка ёсьць адно тады, калі спрабуюць ашукваць ягоную партыю і ўрад — бессаромна, не зьмірнуўшы нат, бо, зрэшты, наагул, здаецца, ня ўмеў зусім моргаць, — спакойна выбіваў словы Віктар.**

**Так, няма больш чаго рабіць, — гаварыць, толькі адно — на паветра!**

**— Бывай!**

**— Ідзеш? Дык — да заўтра.**

**Якая агідная, гадкая ўдвая-ўтрая гэтая склізкая рука, незгінальная дошчач-**

Калёквіюм

# СУПРОЦЬ АДРАДЖЭНЬНЯ

## Франьцішак Эн. — Юрась З.

### З нататніка Ю.З.

АДРАДЖЭНЬНЕ — (па-ранейшаму) літаратурны міт, прыдуманы менскімі беларускімі інтэлектуаламі. Адраджэнцы — досыць вузкае кола сталічных інтэлектуалаў.

БЕЛАРУШЧЫНА — зьява (па-ранейшаму) экзатычная, ненатуральная: нацыянальнае жыцьцё застаецца як бы «збоку-прыпёку».

КРЫЗЫС мастацкай культуры: спрачаемся пра элемэнтарныя рэчы — правапіс, вымаўленьне слоў, нарматывы, — заміж таго, каб ствараць *новыя творы*.

КАНФЭРЭНЦЫЯ ў Маладэчне (па *сьвядомасьці беларусаў*, жнівень 1992): вялікі зарад нацыянальнага жыцьця — у межах, аднак, вялікае залі. Можна было ўвогуле абмежавацца выданьнем зборніка выступленьняў.

Навукападобнае асьветніцтва не ўратуе. Гэта толькі сэрыя актаў, якія залежаць ад актыўнасьці канкрэтных людзей. Калі іх актыўнасьць астывае, сканчаецца й асьветніцтва. Што пры гэтым застаецца ў культуры?

Беларускае слова цяпер — сродак зносінаў у замкнёнай сыстэме. Нешматлікія рэдакцыі, акадэмічныя інстытуты мовы й літаратуры, СП. Незразумела, якім чынам іх працаўнікі ўмудраюцца лічыць нармальнай агульную сытуацыю ў культуры? *Для аптымізму* ім дастаткова дзяржаўных законаў.

### Дыялёг

**Юрась З.** Для многіх было нечаканасьцю, што пасьля таго, як збольшага ўстаялася пост-імпэрская геапалітычная сытуацыя (колішні цэнтар ператварыўся ў пэрыфэрыю, а колішняя пэрыфэрыя падзялілася на самастойныя цэнтры), беларускае адраджэньне дало збоі, пачало зацыкліваццa на месцы, збавіла абароты. Пры адсутнасьці вонкавага палітычнага ўціску гэта выглядае парадоксам, бо, здаецца, магчымасьцяў дзеля нацыянальнага жыцьця ў параўнаньні з дапучавымі часамі значна паболела. Зьместам адраджэньня, аднак, па-ранейшаму застаюцца колішнія спрэчкі пра дзяржаўнасьць беларускай мовы, патрэбу нацыянальнага войска, межаў, мытняў...

За пяць мінулых гадоў адраджэньне ня надта каб пераадолела жанр рыторыкі, увогуле літаратурную форму. Яно зрабілася літаратурным мітам, які *працуе* ў досыць вузкім коле літаратараў і грамадзкіх дзеячоў, але дасюль ня стала агульнаграмадзкай ідэалёгіяй.

**Франьцішак Эн.** Самое гэтае выказваньне паўстае зь нетраў адраджэньня як *літаратурнага міту* і выяўляе сваю залежнасьць ад гэтае сэмантыкі, хоць і спрабуе выйсьці за яе межы. Насампраўдзе сытуацыя зусім не *такая*. Яна лепш апісваецца ў тэрмінах *складаньня грамадзянскае супольнасьці* альбо *выбудовы дзяржавы*, чым праз такую няпэўную ідэалягічную катэгорыю як *беларускае адраджэньне*. Калі мы хочам зразумець, што адбываецца, мы мусім забыцца на гэтае словазлучэньне ўвогуле.

Тое, што маецца на ўвазе пад *беларускім адраджэньнем*, можа быць названа па-іншаму: набыцьцё традыцыі (але пра гэта — пасьля).

### Ігар БАБКОЎ — па сакрэце Ю.З.

У нас усё *адраджэньне* трымаецца на адраджэнскай рыторыцы: было адно адраджэньне, другое... надыйшло шостае... Так можна адраджацца бясконца.

Пасьля распаду СССР і набыцьця незалежнасьці для беларусаў пачаўся другі пэрыяд стварэньня нацыі — зь іншымі стартавымі ўмовамі, чым на пачатку стагодзьдзя, але з тымі самымі задачамі. Пачынаецца дынамічнае, імклівае разьвіцьцё нацыянальнай сьвядомасьці — бо зьявіўся яе замоўца — свая дзяржава (дзяржава задае нацыянальную еднасьць і выступае рэпрэзэнтантам нацыі). Але адбываецца й іншы працэс: у дзяржаве ўзьнікае грамадзянская супольнасьць, падзяленьне грамадзтва на дробныя аддзелы, кожны зь якіх выпрацоўвае свае формы прадстаўніцтва. Разьвіцьцё сучасных эўрапейскіх нацыяў у межах сваіх дзяржаваў заснаванае на дыялектыцы паміж грамадзянскай супольнасьцю й дзяржавай, іх кампрамісах.

Цяпер тая беларушчына, што трымалася разам, — развалілася, дысьпэрсавалася па розных нішах грамадзянскае супольнасьці. Усе мы працуем, натуральна, на складваньне агульнанацыянальнай еднасьці, ідэалёгіі, мітаў, сэмантыкі, — але адначасна й на сваю *нішу*, мікрагрупу. Тут могуць быць узаемныя супярэчнасьці (напрыклад, паміж беларускімі інтэлектуаламі й палітыкамі, бо першыя не прымаюць выкарыстаньня нацыянальнае сэмантыкі ў якасьці ідэалёгіі). Аднак жа на ўзроўні нацыянальным гэтае змаганьне — чыста рытуальнае, хоць на ўзроўні грамадзянскае супольнасьці — рэальнае. Тут дзіўны працэс адначасова й дыфэрэнцыяцыі і інтэграцыі беларушчыны — на розных узроўнях.

### Працяг дыялёгу

**(Франьцішак Эн.)** ... Ёсьць беларуская культурная прастора, дынаміка якой сёньня вызначаецца не франтальнымі наступамі й новымі «агульнаграмадзкімі ідэалёгіямі», а хутчэй індывідуальнымі ды групавымі культурнымі праектамі. Культурная прастора перастае быць аднароднай, гамагеннай, абавязковай ды па-савецку занудлівай. Усярэдзіне гэтай прасторы мы на сёньня маем як мінімум пяць кшталтаў беларускай культуры: савецка-беларускі; авангардны (у шырокім сэньсе); віленскі; беластоцкі; эміграцкі, — якія накладаюцца адзін на адзін ды ўтвараюць тую мазаіку беларушчыны, як яна бачная «неаналітычнаму воку».

А калі далучыць да гэтага ўсіх «тутэйшых», «заходнерусаў», «крэсовых палякаў», савецкіх ды іншых маргіналаў — усё гэта пачынае небясьпечна нагадваць лякарню.

Пра якую «агульнаграмадзкую ідэалёгію» можа йсьці гаворка ў гэткай сытуацыі? Адзінае, пра што мы можам дамовіцца (і пра што мы мусім дамовіцца), — гэта своеасаблівы «нулявы варыянт»:

1. Мы ўсе зьяўляемся пэрсанажамі беларускай культурнай прасторы (незалежна ад мовы, самасьвядомасьці, нацыянальнага паходжаньня).

2. Няведаньне, пагарда, адпрэчваньне беларушчыны — гэта такая ж *беларуская* зьява, якая мае свае карані ў беларускай культурнай традыцыі (хоць і са знакам мінус).

3. Наперадзе сьветла.

*На гэтым нашыя агульнасьці сканчаюцца. Далей кожны з нас займаецца сваім ладам беларушчыны.*

Беларуская культура ў гэтым становішчы й на гэткім тле мусіць істотна зьмяніць свае функцыі ды свой «радыюс дзеяньня»: сама *беларускасьць* мусіць быць усьвядомленая як мэта-этнічная зьява, полілінгвістычная, поліканфэсійная, але глыбока ўцэнтраваная. Па сутнасьці, сёньня адбываецца пераход ад *этнакультуры* да культуры *нацыянальнай* і адначасна йдзе пошук узроўню гэтай уцэнтраванасьці.

Беларуская культурная прастора, такім чынам, нагадвае сёньня вялікі кацёл, у якім з усіх кампанэнтаў варыцца прынцыпова іншы тып культуры — нацыянальная культура.

**Юрась З.** Такім чынам, мы стаім перад патрэбай новай культурнай сэмантыкі дзеля беларушчыны?

**Франьцішак Эн. Калі ўжо браць катэгорыі лінгвістыкі (ці сэміётыкі), дык мы маем патрэбу ня ў новай сэмантыцы, але ў новым сынтаксысе беларушчыны. Па сутнасьці, нашыя папярэднікі працавалі на назапашваньне матэрыялу, і ў гэтым жанры зрабілі неверагодна шмат (асабліва гісторыкі літаратуры). Але сёньня новы тэкст ці новая падрабязнасьць ужо ня так цікавыя й ня так істотныя. Складваецца ўражаньне, што дасюль большасьць дасьледчыкаў працавала дзеля** *значэньняў*, **абсалютна ігнаруючы** *сэнсы*. **Прычым тыя «значэньні» падаваліся ў модусе квазі-навуковай аб'ектыўнасьці, альбо «клясавасьці». З гуманістыкі пасьлядоўна вымываўся суб'ект, і беларушчына заставалася на ўзроўні самога матэрыялу, але не на ўзроўні** *пункту погляду*. **Возьмем, напрыклад, мову.**

Беларуская культура належыць да гэтак званых мова-цэнтрычных культур — такіх, дзе падвалінамі, грунтам ды мэтай культуры зьяўляецца МОВА. Мова, узятая ў сваёй крэатыўнай (стваральнай, сьветамадэльнай) функцыі. Са старажытных культур да такога тыпу належала стара-арыйская культура (санскрыт), з новых эўрапейскіх — француская ды іншыя. Беларуская мова дзеля свайго багацьця, дзеля сваёй архаічнасьці, гнуткасьці, аўтэнтычнасьці й г.д. мусіць быць сапраўдным прадметам культу нацыі; структуры, акадэмічныя й не-акадэмічныя, мусяць быць СУТНАСНЫМІ структурамі.

Беларуская савецкая лінгвістыка займалася мовай так, як прэпаруюць труп у трупярні: зь цікавасьцю, з дакладнасьцю, ды з агідай.

У выніку мы сёньня ставім за мэту перш за ўсё рэанімаваць суб'ект беларушчыны: постаць мовазнаўцы павінна нагадваць постаць сьвятара.

**Юрась З.** Сэмантыка — гэта, мэтафарычна кажучы, неба нацыянальнай культуры, што ўгрунтоўваецца на зямлі, ва ўлоньні тутэйшага краявіду. Якім ён табе бачыцца?

**Франьцішак Эн.** Беларусь знаходзіць сябе на сутыкненьні двух культурных «топасаў»: велізарных эўразійскіх прастораў Расеі, што пульсуюць паміж культурнай «асобнасьцю», «асаблівай роляй», «асаблівым шляхам», і такім самым глябальным, плянэтарнага кшталту рухам да ўлучэньня ў заходне-эўрапейскі сьвет, — і ўласна Эўропай, заходне-эўрапейскай культурай. Шукаць сваю саматоеснасьць, свой шлях паміж дзьвюма такімі культурнымі імпэрыямі надзвычай складана, але іншай магчымасьці няма. Я б пазначыў гэтую стратэгію пошукаў саматоеснасьці як стратэгію *беларускага фундамэнталізму*.

Фундамэнталізм — гэта пошукі грунту, фундамэнту. Мне здаецца, што гэткая тэндэнцыя ледзь не апрыёрна закладзеная ў «тутэйшую» сьвядомасьць, якая прынцыпова ня ёсьць ідэалягічная. Аніякіх «беларускіх ідэяў» ня можа йснаваць «па вызначэньні». Мы можам гаварыць пра *беларускі міт*, беларускі сьвет, беларускі шлях, але не пра «беларускую ідэю».

Зрэшты, сама катэгорыя нацыянальнай ідэі мне здаецца дастаткова абсурднай. *Нацыянальнае* ня ёсьць сутнасьць, ня ёсьць ідэяй. Гэта хутчэй «топас», месца, і ў гэтым — глыбокі сэнс унікальнасьці. Так, як унікальны ляндшафт, і мы проста пры-сутнічаем пры ім, сузіраем, удыхаем паветра, і, нарэшце, перастаем яго заўважаць. Мы зьліваемся зь ім, становімся ягонай часткай, не перастаючы ўсьведамляць сваю асобнасьць. Нацыянальнае й ёсьць такі ляндшафт. Ягоная таямніца — дасэмантычнага кшталту.

Гэтая таямніца сёньня «дыхае ў патыліцу», прымушае шукаць нейкія сутнасныя, істотныя словы, што вялі б усярэдзіну, дазволілі б увайсьці ў ляндшафт ды забыцца ў ім. Каб ня *мы* гаварылі *пра яго*, а каб *ён* гаварыў *праз нас*.

Пакуль сэнсы схаваныя ў гэтай прасторы, яны толькі прадчуваюцца, цьмяна прасьвечваюць праз яе.

**Юрась З.** Я ўжо выказаў свой пэсымізм адносна ўзьдзеяньня літаратуры на сучаснае беларускае грамадзтва. І рэч ня толькі ў тым, што не запатрабаваная сама мова, але, відаць, надыходзіць пост-літаратурная эпоха зь іншымі эстэтычнымі чыньнікамі: тэлевізіяй, відэа й інш. Што можа паслужыць заменьнікам літаратуры ў нацыянальнай культуры заўтра?

**Франьцішак Эн.** Я б перафармуляваў вашае пытаньне: не літаратура будзе замененая, а, наадварот, яна перастане замяняць у

## Каханы горад

**ка і нават гэтае "заўтра", якое Віктар заўсёды стараўся пераламаць на "перадавое" "зафтра", бо за ягонае, занадта выразнае "ў" расейцы дражнілі.**

**— Пайду й я, не дачакацца-ткі, мусіць, праўда. Хадзем, хіба, за адным скрыпам.**

**Яшчэ раз — дошчачка, яшчэ раз — порскат "зафтра" — гадкае таўро, якім пакарала хіба Бацькаўшчына свайго вырадка, адшчапенца... Мэханічна адбіваючы крок, сягаў Валік у сваю палатку. Раптам недалёка шпокнула ў неба ракета, зырка асьвятляючы ўсё на мамэнт. І, здаецца, такім-жа зыркім, бязьлітасна-зыркім сьвятлом праясьніліся адразу й думкі. Ці ёсьць ужо для яго, Валіка, сэнс у якім-небудзь "заўтра"? "Можа", "можа" — падчыркнуў і гэты правакатар аж двойчы, а калі ня "можа", а "напэўна" — адно, і такое яснае, гулкае, як гэтая во ракета: расстрэл... А пакуль да яго — допыты, "шчырыя прызнаньні", "самавыкрываньні" й "самабічаваньні", "адмежаваньні", нудныя павучаньні... І гэта ўсё пачнецца ўжо заўтра — "зафтра"...**

**Дык — ці варта?.. Ці ня лепш самому, выперадзіўшы іх...**

**А Вера? Толькі ж — Вера, не, лепш — вера, што пабачыць Яе хоць некалі, магла б утрымаць пры жыцьці... Але ж, каб верыць гэтак, трэба ўзьверыцца перш, што можна будзе неяк, дзівам нейкім такі канец абмінуць. Не, не абмінуць яго ніяк, бо — канец жа, пусты канец, і гэты ж падлей ужо зробіць усё, каб ніякае "можа" не выварыжыла надвая...**

**А — "каханы горад"? — "Можа спаць спакойна"... Ізноў — "можа"...**

**Спакойна спаў у палатцы, салодка хроп ужо Ахмет. Слаўны хлопец... А можа — "можа"! Можа зь Віктаравае сакрэтнай падвучкі раду такую добрую Валіку падаткнуў? "Слаўны хлопец" — ці ж не здаваўся ўжо такім сяньня й Віктар, як алеем увесь сплываў, і пра "давер", а не агідны вералом падумалася й самому...**

**Калі ж не, калі запраўды "слаўны хлопец" — дык і перад ім, перад Ахметам, рашчыніцца заўтра тое ж "можа"... Чаму не перасьцярог начальніка, не спыніў, урэшце — не данёс адразу? Суўдзельнік...**

**... Дзірачка, ад кулі ў палатне палаткі — маленькае вакенца ў неба... Юрка... Дзе Юрка, што Юрка...**

**Вакенца ў неба... Неба... Вера ў неба... Вера...**

**Так, "вакенца ў неба" — ізноў падказвае такі просты шлях. Шлях разьвітаньня зь зямлёй, паратунку ад нуднапакутнага "зафтра"... Шлях ад Веры ці — да Веры? Шлях веры...**

**Так, наважана.**

**І ўжо цьвёрдая, наважаная, як ніколі, як не свая — бязвольная рука. "Ты тчэш, бязвольная рука". Адкуль гэта? Ці не ўсёроўна цяпер...**

**Рука — у сэрца. Дзе яно, сэрца? Гулка калоціць-б'е нешта ў грудзёх, як не рассадзіць іх, запаўняе біцьцём сваім грудзі ўсе, не пазнаць, не знайсьці яго, дзе яно, што павінна быць — маленькі, трапяткі камячок-сэрца, што павінна зараз — сьціхнуць навекі.**

**Грудзі поўныя сэрцам, жывым яшчэ, несьціханным...**

**Ды не здрыганулася рука — першы й апошні раз у жыцьці, бязвольная рука, хоць стрэл кіравала проста сабе самому ў сэрца, дзе й цяпер яшчэ — і ўжо толькі там — поўна было ўсё аднэй — Верай...**

* * *

**Віктар прыбег адразу, яшчэ добра не ўцяміўшы, чаго хоча запыханы Ахмет. Так, усё як найлепш, ізноў больш, як спадзявана. Насьмерць? Усёроўна... Трохі толькі крывёю запырсканы партрэт, зь яе партрэт — як жывая — сам, мусіць, маляваў, а не хваліўся, не паказваў ніколі й нікому. Цяпер гэта — ягоная, Віктарава собскасьць. Цяпер — толькі гэта, а пасьля — пасьля і жывая зусім сама.**

**Што — не насьмерць? Усёроўна, усёроўна... Ахмет — па лекара... Ды дармо, усёроўна, усёроўна. Каб сабе і выжыў навет — толькі адцяжачка, адтэрмінаваньне пэўнага, наканаванага, і нат — самым...**

**Але ж, двух, можна лічыць, суступілі. Застаецца адзін, ён — Віктар —**




Калі Вы чытаеце *НН*,
Вы ведаеце,
што гэта такое.
Але Вы ня ведаеце,
што гэта будзе
ў наступным годзе.

*Наша Ніва* —
не прапагандыст
і не агітатар,
і не калектыўны
арганізатар.
*НН* — гэта ўсяго
толькі свабода,
прыстойнасьць
і беларуская мова.

Калі Вы чытаеце *НН*
і лічыце газэту
нармальнай,
у наступным годзе
мы паспрабуем зрабіць
яе ідэальнай
для Вас.

## *ШТО ПІШУЦЬ?*

### Pra paeziju

*(Valerka Bułhakaŭ ź Miensku)*

Na moj spazor, paezija naŭpierad — imanentnaja iluzija, adviečnaja adbitka druhasnaści abmiažoŭvaje jejnyja patencyji. Darujcie za zališniuju patetyku, ale ciapierašniaja tvorčaść i, u pryvatnaści, paezija — heta adno pryncyp tvorčaści, dumka ab joj, karystajučysia charakternaju Nietzschevaju terminalohijaj. Hetaja teza datyčyć i tych litaraturnych praktykavańniaŭ, što drukuje *Naša Niva*. Mnie zdajecca, čas radkovaha semantyčnaha napaŭnieńnia, paetyčnaje estetyki z idealohii, minaje, jaho čakaje pierachod i źniščeńnie (Die Übergang und Untergang). Nadychodzić časina iracyjanalnaje mechaniki vierša i, ahułam kažučy, adagmatyčnaje chirurhii tvorčaści, jakaja, zrešty, musić stacca niepradukcyjnaj, jak i kožnaja metafizyčnaja substancyja. Mnie zastajecca tolki vitać źniknieńnie racyjanalnaje j lahičnaje mistyki.

### Пра Леніна

*(С.Квят і сп. Ю. зь Менску)*

Сабралася неяк у Менску маладзёжная канфэрэнцыя. Пасьля паседжаньня нашыя студэнты павялі гасьцей-летувісаў беларускага піва пакаштаваць. Паселі ў бары, дзеляцца ўражаньнямі, пляны барацьбы з камунізмам выпрацоўваюць, Летуву — Беларусь параўноўваюць.

— Увогуле, гады яны (камуністы — *аўт.*), — адпіваючы з куфля, зазначыў Сяржук Г.

— Во, во, — пацьвердзіла бабулька-прыбіральшчыца. — Правільна, сынок.

Тут, спэцыяльна для бабулькі, пачалі выкрываць камуністаў, а яна падтаквала:

— краіну да галечы давялі, — у крамах шаром пакаці, — у доме трубы цякуць...

Тады Сяржук узяў ды выбухнуў:

— А Ленін сярод іх — галоўная сволач!

Няцісэкундавае маўчаньне...

— А вось Ле-ні-на ты не чапай...

— Бабулька, дык...

... І швабраю разагнала блюзьнераў.

### Пра Новую Культурную Сытуацыю

*(Андрусь Корбут зь Менску)*

Паўсюдна чуваць галасы непакою за будучыню нашае мовы й культуры ў новай сытуацыі рынку ды зьмены ўсяго ладу жыцьця. Але гэта толькі паверхневы ўзровень думкі, што грунтуецца на ранейшых традыцыях барацьбы-супраць русыфікацыі. Між тым пачынаюцца зьмены і ў самым груньце йснаваньня культуры.

Найперш — ідзе працэс вяртаньня польскай культуры на землі Заходняе Беларусі. Кажуць: гэта пагроза для нашага адраджэньня. Але я не падзяляю такой трывогі. Яна — ад боязі сапраўднага культурнага спаборніцтва.

Усе апошнія дзесяцігодзьдзі, калі заходняя мяжа была "замкнутая на замок", разьвіцьцё беларускай нацыі й культуры адбывалася дэфармаваным, ненатуральным парадкам. Былі перапыненыя ўсе сувязі з Заходняй Эўропай. Па сутнасьці ў нас адабралі адно з апірышчаў нашага нацыянальнага разьвіцьця й пакінулі толькі ўсходнеславянскае. І ўсе гэтыя дзесяцігодзьдзі беларуская культура кульгала на адну нагу. Беларусь надоўга стала культурнай правінцыяй Масквы.

Вось чаму трэба вітаць аднаўленьне культурнай прысутнасьці Польшчы на Беларусі. Бо польская культура з даўніны была адной зь неабходных умоваў разьвіцьця й існаваньня нашай беларускай нацыянальнай культуры.

Але польскі аспэкт — зусім не адзіны ў справе злучэньня нашага з Эўропаю. Мы павінны шырока раскрыць Беларусь перад заходнеэўрапейскімі культурамі, асабліва перад уплывамі з Нордвэсту, з краінаў, дзе пануе пратэстанцкая этыка.

Мы павінны шырока адкрыцца перад уплывамі з Чэхіі, Летувы, Латвіі, Нямеччыны, Францыі, Швэцыі і г.д. Ангельская й нямецкая мовы павінны шырока гучаць тут, на Беларусі. Трэба шырэй уводзіць ва ўжытак беларускую лацінку.

Зразумела, у асноўным стваральнікам культурных каштоўнасьцяў ёсьць асоба, а не прывідная "асацыяцыя". Гэта рэальнасьць. Але яна ня Богам дадзеная, а складвалася вякамі.

Якая была культурная сытуацыя на Беларусі, напрыклад, у XIX ст.? Традыцыйная, вясковая культура абапіралася на народныя абшчынныя традыцыі. На яе наступалі з усходу расейская, а з захаду польская культуры, якія ўжо тады выйшлі на новую ступень разьвіцьця, калі культуру наперад штурхаюць асобы.

Прынцыпова новае заўсёды нараджаецца на сутыкненьні розных патокаў, плыняў, уплываў. Калі, вядома, гэты працэс ідзе вольна, бяз націску ды гвалту. Гарантам захаваньня беларушчыны ў гэтых сутыкненьнях мусіць быць прызнаная ў сьвеце Беларуская дзяржава.

Наперадзе — эпоха сапраўды падмурковых зьменаў у нашай беларускай культуры. Наперадзе Новая Культурная Сытуацыя.



## *ЖАРТ*



*На варце рубяжоў.*

***На выданьне НН ахвяравалі:***

*Альфонс Кіткоўскі зь в. Юшкі Салечніцкага раёну — 300 тал.*
*Альбіна Чапкоўская зь Менску — 200 р.*
*Сп. Карабач зь Вільні — 100 тал.*
*Б.Даніловіч з ЗША — $ 20*
*Віталь Сямашка зь Менску — 200 р.*
*Ірына Жарская зь Менску — 200 р.*
*Яраслаў Станкевіч зь Вільні — 50 тал.*
*Рэгіна Нікольская зь Вільні — 100 тал.*

***Вялікі дзякуй!***


**НАША НІВА** Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. **Рэдакцыйная Рада:** Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глебус, Алег Дзярновіч, Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа (адказны сакратар). **Заснавальнік** Павал Жук. **Выдавец:** Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтар. **Адрас Рэдакцыі:** Вільня, вул. Жыгімонта 12/2, **тэл.** 224161, **для допісаў:** а/с 2082, Вільня.
Афсэтны друк. Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Замова Наклад




**ПАДПІСКА** У межах Рэспублікі Беларусі *Нашу Ніву* можна выпісаць у любым аддзяленьні сувязі. Індэкс: 63125. У пытаньнях падпіскі й рассылкі звярачайцеся: Рэспубліка Беларусь і краіны СНГ — **Алег Дзярновіч, БГАКЦ, Кірава 21, Менск,** іншы сьвет — **Siarhiej Šupa, Vasaros 7, 2055 Vilnia, Lithuania.**